Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 44 (4793) 6 лістапада 2014 г.


З Хафізам па-беларуску 4


Прынц і Папялушка айчыннай паэзіі 7


Пра што не пішуць падручнікі 8


А ваш герб? 9


Tour... у графіку 16

# Зроблена ў Слуцку

**Выстаўка слуцкіх паясоў з фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**

У межах экспазіцыі прадстаўлена шэсць паясоў, выробленых Слуцкай мануфактурай: пяць з іх выканана ў перыяд, калі прадпрыемствам кіравалі Ян і Лявон Маджарскія (1767 — 1807), адзін пояс створаны пасля 1807 года.

Прадстаўленне гэтых каштоўных экспанатаў з фондаў польскага музея ў Беларусі — новы этап Дзяржаўнай праграмы адраджэння старадаўняга майстэрства ткацтва слуцкіх паясоў (раней у Нацыянальным мастацкім музеі краіны ўжо ладзіліся выстаўкі слуцкіх паясоў з фондаў музеяў Масквы і Вільнюса), а таксама новы крок культурнага супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы. Гэта адзначалі падчас урачыстага адкрыцця экспазіцыі намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея краіны Уладзімір Пракапцоў. Значнасць культурнага аспекта ў турыстычным супрацоўніцтве падкрэслілі намеснік міністра спорту і турызму Польшчы Катажына Сабераўска і намеснік міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Чэслаў Шульга.

Зладзіць міжнародную выстаўку такіх надзвычай каштоўных прадметаў — задача няпростая, але дзякуючы падтрымцы Пасольства Польшчы ў Беларусі ўсё атрымалася. Больш за тое, можна сцвярджаць, што слуцкія паясы з фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве дапамогуць беларускім навукоўцам яшчэ глыбей вывучыць сам феномен слуцкіх паясоў.

Чытайце на стар. 2 ▶


*Фота Кастуся Дробава*

# Іспанскія жарсці на беларускай сцэне


*Фота Міхаіла Несцерава*

*Сцэна з балета «Лаўрэнсія». Салістка — народная артыстка Беларусі Вольга Гайко.*

**1 і 2 лістапада Вялікі тэатр Беларусі прадставіў чарговую прэм'еру, лепшую работу знакамітага танцоўшчыка і балетмайстра Вахтанга Чабукіяні — балет «Лаўрэнсія».**

«Лаўрэнсія» — назва, амаль не знаёмая сучасным прыхільнікам харэаграфічнага мастацтва. У аснове балета — п'еса класіка іспанскай драматургіі Лопэ дэ Вэга «Адвечая крыніца» пра сутыкненні іспанскіх сялян і іх гаспадарафеадала. У адказ на беззаконні народ падымаецца на бунт. Гэтую сюжэтную фабулу ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя палічылі выдатным прыкладам замежнай класікі, што служыць ідэям сацыялізму. Ва ўмовах СССР п'еса інтэрпрэтавалася як гісторыя пра барацьбу іспанскіх сялян супраць феадалаў. Прэм'ера спектакля адбылася ў 1939 годзе ў Кіраўскім (цяпер Марыінскім) тэатры ў Санкт-Пецярбургу, далей эстафету прыняў Вялікі тэатр Расіі, а затым хваля пастановак «Лаўрэнсіі» пракацілася практычна па ўсіх галоўных сцэнах Савецкага Саюза і нават выйшла за яго межы. У пяцідзясятыя гады спектакль ставіўся і ў беларускім оперным.

Узгадаць цікавы і незаслужана забыты матэрыял вырашыла народная артыстка Грузіі і Расіі Ніна Ананіяшвілі. Яна выступіла ў якасці аўтара новай версіі лібрэта і балетмайстра, узнавіўшы максімальна блізка да арыгіналу харэаграфію свайго вялікага суайчынніка Вахтанга Чабукіяні.

Чытайце на стар. 2 ▶

## *Пункцірам*

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста Беларусі Тадэвуша Кокштыса. «Ваш творчы лёс непарыўна звязаны з Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатрам імя Якуба Коласа. Дзякуючы ўнікальнаму таленту і вялікай працаздольнасці Вы сталі адной з яркіх зорак сучаснай беларускай сцэны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Беларусі Ігара Алоўнікава з 60-годдзем. «Сёння вы па праве з'яўляецеся адным з лепшых прафесійных музыкантаў і педагогаў краіны, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Вялікай павагі заслугоўвае ваша плённая праца па захаванні і ўзбагачэнні беларускай музычнай спадчыны».

✔ Помнік Максіму Танку ўрачыста адкрыюць сёння ў Мядзеле. Ён будзе ўсталяваны на плошчы Шаранговіча, непадалёк ад Дома культуры. У раёне вуліцы Крупскай пройдзе закладка капсулы пад будаўніцтва дома-музея класіка.

✔ Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны прафесара Валянціна Дудкевіча 10 лістапада прадставіць у Маскве сольную праграму «Зямля пад белымі крыламі». Выступленне прымеркавана да 55-годдзя заслужанага калектыву і пройдзе ў Канцэртнай зале імя П. І. Чайкоўскага.

✔ Музею Гомельскага палацава-паркавага ансамбля 7 лістапада спаўняецца 95 гадоў. Гэтай падзеі прысвечана выстаўка-прэзентацыя «"И древние предметы бережно храня…" З гісторыі збірання музейнай калекцыі археалогіі», якая адкрылася ў цэнтральнай частцы палаца Румянцавых і Паскевічаў.

✔ IX Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «У гонар святой Цэцыліі»-2014 праходзіць у мінскім архікатэдральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі. У вечарах арганнай музыкі бяруць удзел майстры з замежжа (15 і 19 лістапада), выпускнікі і студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. 22 лістапада будуць выступаць хор і інструменталісты мінскай архікатэдры. Завершыцца фэст 7 снежня вечарам камернай музыкі.

✔ Трынаццаць лялечных тэатраў Віцебскай вобласці ўзялі ўдзел у рэгіянальным свяце-конкурсе калектываў «Лялечны свет», якое адбылося ў горадзе Сянно 4 лістапада. У межах свята прайшла дабрачынная акцыя «"Лялечны свет" — дзецям» у дапамогу шматдзетным і малазабяспечаным сем'ям, выхаванцам дзіцячых дамоў.

✔ Прэзентацыя факсімільнага выдання Тураўскага Евангелля пройдзе 10 лістапада ў Гомельскай абласной бібліятэцы. Факсімільныя копіі (дакладна ўзноўленыя) былі надрукаваны па ініцыятыве Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі агульным накладам у 500 асобнікаў.



# Іспанскія жарсці на беларускай сцэне

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Але калі раней у пастаноўках балета на першы план вылучаўся сацыяльны аспект, то ў беларускім спектаклі акцэнт зроблены на асабістыя стасункі герояў: любоўная гісторыя сялянкі Лаўрэнсіі і яе каханага Франдосы, якія разам супрацьстаяць дэспатычнаму феадалу.

Над беларускім спектаклем працавала інтэрнацыянальная каманда пастаноўшчыкаў. Зорка сусветнага балета Ніна Ананіяшвілі запрасіла ў Мінск сваіх калег і сяброў з розных краін. За мастацкае афармленне «Лаўрэнсіі» адказваў Давід Монавардзісашвілі (Грузія), сцэнічныя строі для беларускай трупы стварыў знакаміты гісторык моды і тэлевядучы Аляксандр Васільеў (Расія), які, дарэчы, на працягу ўсёй прафесійнай кар'еры плённа працуе з рознымі тэатрамі свету. Мастацкія кансультацыі па харэаграфіі Чабукіяні ды інтэрпрэтацыі вобразаў беларускім танцоўшчыкам даваў народны артыст Расіі Аляксей Фадзеечаў, а светлавое афармленне спектакля падрыхтаваў эстонец Маргус Вайгур.

Беларускі бок быў прадстаўлены дырыжорам Алегам Лесуном, якому давялося правесці складаную працу над музычнай партытурай савецкага кампазітара Аляксандра Крэйна. У музыцы «Лаўрэнсіі» шмат арыгінальных кампазітарскіх ідэй: іспанскія народныя тэмы, узятыя аўтарам з фальклору і пераасэнсаваныя яго фантазіяй, адмыслова аркестраваны і надаюць твору яркі нацыянальны каларыт.

Рознахарактарная, поўная яркіх фарбаў музыка Крэйна, займальны сюжэт у спалучэнні з насычанай, відовішчнай, тэхнічна складанай харэаграфіяй Чабукіяні ставяць «Лаўрэнсію» ў шэраг самых цікавых балетных твораў савецкага часу. Гэты спектакль — выдатны ўзор класічнага гераіка-драматычнага балета, у якім, дарэчы, шмат і народна-сцэнічных танцаў. «Лаўрэнсія» — сапраўднае выпрабаванне для выканаўцаў: галоўную жаночую партыю могуць танцаваць толькі балерыны з выключнымі прафесійнымі дадзенымі. У Вялікім тэатры такіх аж на чатыры саставы! Прэм'еру даверылі народнай артыстцы Беларусі Вользе Гайко. Зорку айчыннай балетнай сцэны пастаноўшчыкі неаднаразова параўноўвалі з іншай цудоўнай Лаўрэнсіяй — легендарнай Маей Плісецкай. На беларускай сцэне драматычны вобраз адважнай іспанскай прыгажуні ўвасабляюць таксама любіміцы публікі Марына Вежнавец, Ірына Яромкіна і Людміла Хітрова. Наступны паказ «Лаўрэнсіі» адбудзецца 22 лістапада.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

# Адкрыццё года

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі аб'яўляе прыём твораў прэтэндэнтаў на штогадовую літаратурную прэмію «Адкрыццё года». Прэмія прысуджаецца маладым літаратарам сталіцы ва ўзросце да 35 гадоў за найбольш адметныя творы, апублікаваныя ў літаратурна-мастацкіх выданнях, зборніках або асобнай кніжкай на працягу 2014 года.

Да разгляду прымаюцца творы розных жанраў: проза, паэзія, драматургія (пастаўлены спектакль), літаратуразнаўства і крытыка, літаратура для дзяцей, публіцыстыка, пераклады. Прыём твораў на прэмію «Адкрыццё года» за 2014 г. заканчваецца 28 лютага 2015 г. Вылучаць творы на гэту прэмію могуць рэдакцыі літаратурна-мастацкіх выданняў, выдавецтвы, бібліятэкі, літаратурныя музеі, творчыя аб'яднанні, тэатры. Неабходна падаць пісьмовую заяўку і апублікаваныя творы.

Рашэнне аб прысуджэнні прэміі прымае экспертны савет Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Урачыстае ўручэнне прэміі МГА СПБ «Адкрыццё года» адбудзецца ў сакавіку 2015 года ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## *Тэле-ЛіМ*

# Класіка гучыць...

Скончана праца па зборы ўнікальнай калекцыі дыскаў «Музычны скарб Беларусі».




Ідэя праекта належыць кіраўніку Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку. Музычныя рэдактары Тамара Сaберайская і Таццяна Ухалёва праслухалі кіламетры магнітнай фанаплёнкі, каб не толькі выбраць найлепшае, але і прадставіць розныя музычныя стылі, жанры, кірункі. Прычым большасць запісаў, прадстаўленых у зборы, ёсць толькі ў фондах Белтэлерадыёкампаніі, якія пастаянна папаўняюцца ўнікальнымі аўдыя-, відэа- і кінадакументамі.

У Вялікай зале Белдзяржфілармоніі 4 лістапада адбыўся канцэрт, у праграму якога ўвайшло як жывое выкананне запісаных на дыскі песень, так і ўнікальныя архіўныя матэрыялы. 14 лістапада можна будзе пабачыць яго на тэлеканале «Беларусь 3». А 15 лістапада (да дня нараджэння Беларускага радыё) на Першым нацыянальным канале прагучыць і радыёверсія.

Серыя «Музычны скарб Беларусі» — арыгінальная аўдыякніга, якая ўключае 127 аўдыязапісаў (1940 — 2010) на шасці дысках. Тут прадстаўлены розныя перыяды айчыннай музычнай культуры, пачынаючы з XVI ст.: арыгінальныя апрацоўкі фальклору, рэдкія запісы вядомых музыкантаў, малавядомыя інтэрпрэтацыі беларускімі выканаўцамі сусветных хітоў.

Першы дыск, «Зара мая вячэрняя», адлюстроўвае багацце нацыянальнага фальклору, песень і танцаў. Другі — «Беларуская сюіта» —раскрывае старонкі гісторыі беларускай музыкі XVII — XX стагоддзяў. На трэцім («Вдоль по улице») і чацвёртым («Рапсодыя») дысках — адраведна сусветныя вакальныя ды інструментальныя хіты ў выкананні беларускіх музыкантаў. На пятым — «Через всю войну» — песні Вялікай Айчыннай. Шосты дыск — «Небо и земля» — прадстаўляе духоўную музыку Беларусі.

**Яна ЯВІЧ**

# Зроблена ў Слуцку

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Загадчык аддзела старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука зазначыў:

— Айчынныя навукоўцы раней ужо працавалі з калекцыяй слуцкіх паясоў, што захоўваецца ў Варшаве, аднак для рэпрадукавання выяў гэтых каштоўных прадметаў патрэбен быў адмысловы дазвол установы. Сёння мы маем магчымасць пабачыць некалькі паясоў на свае вочы. Важна, што яны практычна не былі ў карыстанні і захавалі свой першапачатковы колер, тон. Для нас гэта асабліва значна, бо цяпер ідзе размова пра выкананне высакаякасных копій слуцкіх паясоў, іх рэканструкцыю. Думаю, варта аднаўляць пояс на момант яго выканання, з яркімі і сакавітымі фарбамі, адэкватны той гістарычнай сітуацыі, у якой ён быў створаны, часу, калі выкарыстоўвўся. Выстаўка спрые фарміраванню адпаведнага стаўлення грамадства да з'явы слуцкіх паясоў. Сюды прыйдуць мамы з дзецьмі, моладзь, вучоныя, спецыялісты ў іншых галінах, і веданне пра гэтыя прадметы стане часткай агульнай карціны культурнай сітуацыі, што надзвычай важна ў працэсе вяртання ў сучаснае жыццё помнікаў мастацкай, духоўнай культуры беларускага народа.

Міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне прадстаўлення музейных каштоўнасцей будзе працягвацца. Наступным крокам стане арганізацыя ў Мінску выстаўкі работ мастака Фердынанда Рушчыца, якія сёння знаходзяцца за межамі Беларусі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Фэст імя прафесара

Вось ужо ў другі раз у Пастаўскім раёне 8 — 9 лістапада адбудзецца музычны фестываль «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны». Гэтым разам фэсту будзе нададзена імя Браніслава Руткоўскага, вядомага беларуска-польскага арганіста і кампазітара XX стагоддзя, прафесара, музычнага крытыка і арганізатара міжнародных фестываляў арганнай музыкі ў Польшчы і Германіі, які нарадзіўся, быў ахрышчаны і пачаў музыцыраваць на аргане касцёла Святога Яна Хрысціцеля ў мястэчку Камаі.

Фестывальныя канцэрты пройдуць у касцёлах Паставаў, Камаяў, Лынтупах і Лучаяў, сваё майстэрства пакажуць лепшыя беларускія арганісты — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў, салістка канцэртнай залы «Сафійскі сабор» у Полацку, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ксенія Пагарэлая, лаўрэаты міжнародных конкурсаў арганісты Вольга Падгайская і Касцярына Мікалаева, саксафаніст Віталій Дарашук.

**Тадэуш СТРУЖЭЦКІ,**
**аўтар праекта і арганізатар фестывалю**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**10 лістапада** — *на юбілейны творчы вечар паэта і перакладчыка Глеба Артханава. Свята адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**11 лістапада** — *на літаратурны праект «Паэтычны аўторак». Мерапрыемства з удзелам маладых паэтаў Маргарыты Латышкевіч, Адама Шостака, Анастасіі Кузьмічовай пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**11 лістапада** — *на прэзентацыю кніг Дзмітрыя Пятровіча «Белая жанчына» (проза) і «Адзіноты пажоўклыя дні» (паэзія). Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**13 лістапада** — *на прэзентацыю кнігі Віктара Шніпа «Тутэйшая туга». Мерапрыемства пройдзе з удзелам выдавецтва «Чатыры чвэрці» ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 17-й гадзіне.*

# Ёсць кантакт!

Супрацоўнікі «Выдавецкага дома «Звязда», прадстаўнікі выданняў «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Бярозка», «Нёман» днямі сустрэліся з бібліятэкарамі і студэнтамі ў Гомелі. Паездка пралягала па маршруце «Гомельская абласная універсальная бібліятэка імя У. Леніна» — «Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны».

Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава, пісьменнік Алег Ждан, карэспандэнт Марыя Войцік распавялі аўдыторыі пра рэдакцыі айчынных перыядычных выданняў падчас семінара «Роля і месца бібліятэкі ў фарміраванні інфармацыйнага грамадства». Адукацыйны форум доўжыўся два тыдні. Яго ўдзельнікамі сталі загадчыкі аддзелаў бібліятэчнага маркетынгу цэнтральных кніжніц вобласці. Тэматыка семінара ахапіла шырокае кола пытанняў. Бібліятэкары даведаліся, як правільна складаць гадавую статыстычную справаздачу, працаваць з новай дзіцячай літаратурай, развіваць імідж сваёй установы, актыўна ўкараняць інавацыі. Мерапрыемства было накіравана на павышэнне прафесіяналізму бібліятэчных работнікаў з улікам трасфармацыі бібліятэк у інфармацыйным полі.

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны госці з «Выдавецкага дома «Звязда» сустрэліся са студэнтамі філалагічнага факультэта, якія задавалі актуальныя пытанні.

Моладзь цікавілі вынікі сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з творчай інтэлігенцыяй краіны.

Паездка ў Гомель чарговы раз даказала: праца журналістаў і пісьменнікаў, якая вядзецца ў «Выдавецкім доме «Звязда», — вельмі патрэбная грамадству. А папяровыя выданні па-ранейшаму выклікаюць жывы інтарэс у чытачоў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Канікулы з кнігай

Падчас асенніх канікулаў свята дзіцячай кнігі правялі Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і публічная бібліятэка № 13 г. Мінска, што на вуліцы Народнай, 43а. Ганаровым госцем стаў старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі, аўтар кніг для дзяцей Міхась Пазнякоў.

Бібліятэка парупілася пазнаёміць юных чытачоў (вучняў малодшых класаў СШ № 77 і 95) з самымі цікавымі дзіцячымі часопісамі. У зале разгарнулася выстаўка кніг пісьменніка, які прынёс і свае новыя выданні. Адбылася прэзентацыя вялікай аўтарскай кніжнай серыі Міхася Пазнякова «Свет вакол нас», якую трэці год выпускае выдавецтва «Народная асвета». Ужо выйшла 15 кніжак.

Своеасаблівыя маленькія энцыклапедыі ў вершах, скорагаворках і загадках вельмі даспадобы малодшым школьнікам, іх бацькам і настаўнікам. Кніжнае свята ў бібліятэцы пацвердзіла запатрабаванасць падобнай літаратуры.

М. Пазнякоў гутарыў з маленькімі чытачамі, загадваў загадкі. За правільны адказ дзеці атрымлівалі падарунак — кнігу.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Свята кіно пачынаецца

XXI Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» адкрываецца заўтра і пройдзе пад дэвізам «Такое рознае кіно!». Гледачы ўбачаць больш як 160 фільмаў з амаль 50 краін свету.

Галоўнай пляцоўкай форуму стане кінатэатр «Масква», дзе адбудзецца цырымонія адкрыцця фестывалю і пройдзе паказ фільма адкрыцця. Як паведаміла першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга, фармат фэсту набудзе еўрапейскасць: галоўны акцэнт зроблены на прэзентацыі фестывалю, журы, конкурсных праграм і іх удзельнікаў.

Другой значнай тэмай сёлетняга свята кіно стане тэма беларускай кінематаграфіі. Упершыню ў праграме «Лістапада» з'явіўся конкурс нацыянальнага кіно. «Беларусь прадстаўлена ў гэтым годзе амаль 40 фільмамі: ігравымі, дакументальнымі, анімацыйнымі. Гэта заслуга нашых кінематаграфістаў, якія ствараюць карціны дзякуючы дзяржпадтрымцы і дапамозе спонсараў», — адзначыла першы намеснік міністра культуры.

«Лістапад» ствараўся як фестываль краін СНД і Усходняй Еўропы, але на экраны беларускага кінафоруму выходзяць таксама годныя фільмы з іншых краін свету. Кінастужкі пяці кантынентаў будуць удзельнічаць у сёлетняй фестывальнай праграме па шасці пазіцыях. Гэта асноўны конкурс ігравога кіно, конкурс ігравога кіно «Маладосць на маршы», асноўны конкурс дакументальнага кіно, конкурс маладога дакументальнага кіно, конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік» і нацыянальны конкурс.

Праграмны дырэктар «Лістапада» Ігар Сукманаў адзначыў, што праграма форуму складзена з лепшых работ, якія маюць высокі рэйтынг кінафестываляў і зоймуць годнае месца ў сусветным кінематографе. Прадстаўлены і жанравыя, і аўтарскія фільмы. Арганізатары мелі на мэце паказаць сучаснае кіно не толькі для акадэмічнай аўдыторыі.

У тройку лідараў па ліку заяўленых на кінафестываль фільмаў уваходзяць Францыя, Беларусь, Расія. Гонар форуму — фільм цырымоніі адкрыцця «Я не вярнуся» Ільмара Раага, створаны ў кааправдукцыі (Расія — Эстонія — Беларусь — Казахстан — Фінляндыя). Публіка пазнаёміцца з кінамастацтвам Грузіі, Эстоніі, Сербіі, Харватыі, Кітая.

Фільм украінскага рэжысёра Мірослава Слабашпіцкага «Племя» вельмі складана было атрымаць для паказу па прычыне ўдзелу ў розных форумах. Двухгадзінная праца без адзінага слова — трыумф мовы кіно! Кінастужкай закрыцця стане карціна «Тры сэрцы» французскага рэжысёра Бенуа Жака.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Жывы, як подзвіг

Імпрэза «Жывуць, як подзвіг, іх імёны», прымеркаваная да 70-годдзя вызвалення Украіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адбылася ў музеі-лецішчы Васіля Быкава.

У доме пісьменніка сабраліся прадстаўнікі Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, актывісты ўкраінскай дыяспары, аматары творчасці Васіля Быкава, перакладчыкі твораў пісьменніка. Сустрэча пачалася з экскурсіі па музеі, падчас якой прысутныя ўзгадалі падзеі жыццёвага шляху класіка, выпрабаванні ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

А Васілю Уладзіміравічу было тады толькі 17 гадоў. Будучы пісьменнік апынуўся на Украіне, бо збіраўся паступаць у індустрыяльны інстытут г. Шостка Сумскай вобласці. Але ж вайна... Браў удзел у баях за Крывы Рог, Александрыю і Знаменку. У бітве пад сялом Вялікая Севярынка на Кіраваградчыне, дзе сёння створаны школьны музей пісьменніка, Васіль Быкаў ледзь не загінуў пад гусеніцамі танка.

У пачатку 1944 года Васіль Быкаў тры месяцы знаходзіўся ў шпіталі. У той час усе лічылі, што ён пахаваны ў брацкай магіле на Украіне. Але, нягледзячы на цяжкае раненне, пісьменнік ачуняў і вярнуўся на перадавую, удзельнічаў у Яска-Кішынёўскай аперацыі і вызваленні Румыніі. Прайшоў Балгарыю, Югаславію, Аўстрыю і Венгрыю.

Украінцы вельмі шануюць беларускага пісьменніка, з задавальненнем чытаюць яго творы. Падчас сустрэчы ў цёплай, сяброўскай атмасферы прысутныя абмяркоўвалі творчасць Васіля Уладзміравіча, робячы акцэнт на неабходнасць захавання яе для нашчадкаў. Прадстаўнікі ўкраінскай дыяспары распавялі пра грандыёзны праект — пераклад асобных твораў класіка з беларускай мовы на ўкраінскую.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Рыхтуецца энцыклапедыя

Сярод іншых персанальных энцыклапедый добрай славай вылучаюцца выданні «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» «Скарына», «Янка Купала», «Максім Багдановіч». Мінскае энцыклапедычнае выдавецтва фактычна лідар у гэтай справе на постсавецкай прасторы. Вядомы яшчэ выданні такога кшталту ў Расіі («Міхаіл Лермантаў»), ва Украіне («Тарас Шаўчэнка»). У Башкартастане ва Уфе працуе навуковае выдавецтва «Башкірская Энцыклапедыя», дзе ўжо пабачыла свет персанальная энцыклапедыя «Салават Юлаеў». Як тут не правесці аналогію і не падумаць пра тое, што ў Беларусі павінна выйсці энцыклапедыя «Кастусь Каліноўскі». Новы праект башкірскіх кніжнікаў і навукоўцаў — энцыклапедыя «Мустай Карым». У 2012 годзе энцыклапедысты падрыхтавалі канцэпцыю і энцыклапедычны слоўнік.

Энцыклапедыя «Мустай Карым» ствараецца ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Башкартастан «Аб ушанаванні памяці народнага паэта Башкартастана Мустафы Сафіча Карымава (Мустая Карыма)» ад 17 студзеня 2006 года. Выдаўцы ставяць перад сабой задачу асэнсаваць феномен Мустая Карыма як выдатнай асобы свайго часу.

У слоўніку адлюстравана сувязь М. Карыма і з Беларуссю. Запланаваны артыкулы пра народных паэтаў Беларусі Петруся Броўку, Аркадзя Куляшова. Думаю, што «беларуская пляцоўка» ў энцыклапедыі «Мустай Карым» павінна быць крыху шырэйшай. Па-першае, нельга не ўлічваць той факт, што ў «Беларускай Энцыклапедыі» (восьмы том) змешчаны асобны артыкул «Карым Мустай». Па-другое, істотна, што на беларускую мову вершы Мустая Карыма перакладалі Сцяпан Гаўрусёў, Іван Калеснік, Валянцін Лукша. Артыкулы пра гэтых творцаў павінны заняць дастойнае месца ў персанальнай энцыклапедыі народнага паэта Башкартастана. Дарэчы, у 1980 годзе беларускі альманах перакладной літаратуры «Далягляды» надрукаваў вялікую падборку вершаў М. Карыма ў перакладзе С. Гаўрусёва. Чаму б у такім разе не даць асобны артыкул пра «Далягляды»? А мо і пра іншыя выданні, дзе друкаваліся па-беларуску вершы Мустая Карыма?

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

# Памяці калегі і таварыша



1 лістапада на 87-м годзе жыцця памёр вядомы пісьменнік і мовазнавец, член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1975 года Георгій Фёдаравіч Юрчанка. Нарадзіўся ён 31 студзеня 1928 года ў вёсцы Кудрычы Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Бацька будучага пісьменніка быў удзельнікам Першай Сусветнай, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Гэта паспрыяла таму, што Георгій Фёдаравіч шмат увагі надаваў гісторыі свайго роднага раёна, яго адметным людзям, абаронцам Айчыны.

Пасля заканчэння ў 1949 г. Мсціслаўскай СШ Юрчанка паступіў у Магілёўскі настаўніцкі інстытут. З 1951 г. працаваў настаўнікам на Гродзеншчыне, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Дзятлаўскага і Воранаўскага раёнаў. Душа прагла новых ведаў, і малады настаўнік паступае на завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага педагагічнага інстытута. Скончыўшы гэтую навучальную ўстанову, будучы пісьменнік і мовазнавец паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З 1961 па 1988 працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва, пазней рэдакцыі філалогіі выдавецтва «Навука і тэхніка». Меў дзяржаўныя ўзнагароды.

Першы верш напісаў яшчэ ў 1940 г., але друкавацца пачаў толькі ў 1959-м. Пазней пачаў выступаць у рэдкіх для беларускай літаратуры жанрах пародыі і эпіграмы, дасягнуў у гэтай галіне поспехаў. Яго пародыі на многіх паэтаў, празаікаў, літаратуразнаўцаў — гэта класіка. Аўтар здолеў пранікнуць у спецыфіку ідэйнатворчай манеры, выявіць адметнасці стылю, у сяброўска-гумарыстычнай ці з'едліва-саркастычнай форме раскрыць, «агаліць» сутнасць твора. Яго кнігі пародый і эпіграм «Распрэжаны пегас», «Вярхом на вожыку», «Немеладычныя мелодыі», «Парнаскія ўхабы», «У натхнёнай паграбеньцы», «Негабляваная пегасня» ды іншыя сталі настольнымі ў шматлікіх прыхільнікаў дасціпнага беларускага слова, у многіх яго паслядоўнікаў і вучняў.

Шмат Георгій Юрчанка зрабіў і як мовазнавец, нястомны збіральнік народнай лексікі і фразеалогіі. Вялікае моўнае багацце абагульнена ў кнігах «Дыялектны слоўнік. З гаворак Мсціслаўшчыны», «Народная сінаніміка», «І коцінца і валіца», «І сячэ і паліць», «Слова за словам», «Народнае вытворнае слова» ў 3-х тамах, «Сучаснае народнае слова» і г. д.

Актыўна выступаў з артыкуламі, рэцэнзіямі на творы сучасных беларускіх пісьменнікаў. Прымаў удзел у грамадскім жыцці творчага саюза.

Уважлівы, інтэлігентны, сціплы, працавіты і шчыры, Георгій Юрчанка быў сапраўдным патрыётам, грамадзянінам, руплівым сынам свайго народа, любаў яго сэрцу Беларусі. Такім і застанецца ў нашай светлай і ўдзячнай памяці.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці вядомага пісьменніка ЮРЧАНКІ Георгія Фёдаравіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка РУДОГА Васіля Іосіфавіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.



Наталля БІНКЕВІЧ

***

*Вучу сяброўкам быць*
*рэалісткамі:*
*Практычнымі.*
*І выпрабоўваю ісціны:*
*З французскіх раманаў — нізку,*
*Раблю — мае каралі рыскамі,*
*Гачкамі. Хочаш — заплач.*
*Вокны, сталы, дзе я падмалёўвала пацеркі,*
*Павольна сыходзяць з памяці.*

***

*Калі ідзём, нябесны сад над намі.*
*Як хораша судакранацца з ветрам валасамі.*
*І адбівацца ў срэбных ясках ноччу,*
*Калі ў паўзмроку мы шукаем дзень.*

***

*Засціць вочы.*
*Хто за знітаванасцю дзён нашых*
*сочыць? Хто крочыць?*
*Хто сцежыць па гэтых светах?*
*светлых хіба? яркіх як ветах?*
*Верная рана звыклася з сэрцам.*
*Там ім утульна. Там ёй і месца.*
*Роса — інерцыя. Мроіцца кветкі.*
*Іх не хапала. Падала мала.*
*Ведала. Ткала не пад прымусам.*
*Тут ці не тут, і ў ягонай атруце*
*Гінула і расквітала часцей.*
*Цень ад вакон, ад дзвярэй…*
*Зойдзе —*
*І будзе як будзе.*
*Зжатае-зжатае груддзе.*



Лёля БАГДАНОВІЧ

## Развітальная мелодыя...

*Развітальная мелодыя...*
*Лашчыць струны*
*хмельны смык.*
*Сябравала я са згодаю,*
*Ды яна ўзяла разлік.*

*Плача скрыпка паднябесная,*
*Нямым голасам крычыць.*
*Ўслед за восеньскімі песнямі*
*Будзе зімка дні лічыць.*

*Дрэмлюць дрэвы распранутыя,*
*Ну а пацеркі рабін*
*У мароз з начы закутыя*
*Мілагучнасцю хвілін.*

*Развітальная мелодыя...*
*Пад нагамі дываны.*
*Ні чужыя мы, ні родныя —*
*І ні праўды, ні маны...*

## Спатканне...

*Я на цябе глядзела ў захапленні,*
*А ты мяне зусім не заўважаў.*
*Ты іншую прысаджваў на калені.*
*Ды не мяне — сябе абрабаваў.*

*Прыгожы твар і сэрца не пустое,*
*Ды хлопцы заляцаліся чаргой.*
*А час няўмольна дні і тыдні кроіў,*
*Параскідаў па свеце нас з табой.*

*І вось аднойчы звёў*
*на скрыжаванні*
*Зімы і лета, шчасця і бяды.*
*Пасыпаліся жменямі пытанні,*
*У бездань паімчаліся гады.*

*Я зноў дзяўчынка, што ў сукенцы простай*
*З тугой, непаслухмяную касой,*
*У вочы пазіраю нашым вёснам,*
*А ты пяшчотай лашчыш позірк мой.*

*Ну вось і ўсё! Спатканне адбылося.*
*Развітваемся, мабыць, назаўжды.*
*Ды так яно да густу*
*нам прыйшлося,*
*Бо што ні год —*
*вядуць сюды сляды.*



Галіна БАБАРЫКА

***

*Ад свету, ад тлуму, ад болю*
*Закрыцца, сысці і забыць…*
*На раны пасыпана соллю,*
*І воля патрэбна, каб жыць…*
*Падняцца! Узняцца! Падумаць!*
*Бо знойдзецца выйсце заўжды.*
*Жыццё — гэта Божы дарунак —*
*Не крыўдзі Яго ў час бяды.*

## Думкі пра жыццё

*У мяцеліцах спраў,*
*лабірынтах праблем*
*То губляем сябе, то знаходзім.*
*То будуем міраж —*
*асабісты Эдэм,*
*Што знікае пры першай нагодзе.*

*Паласа чарнаты…*
*Паласа белізны…*
*Хваляванні… Надзеі…Трывогі…*
*І бяда — адчуванне напятай*
*струны,*
*Што ірвецца…*
*Адчай і знямога…*

*У мільганні то белых,*
*то чорных палос*
*Пралятае жыццё*
*шэрай птушкай…*
*Што яго не цаніў,*
*нarакаў на свой лёс,*
*Зразумееш ля фінішнай*
*стужкі.*

*Кожны міг пралятае хутчэй,*
*чым страла,*
*Кожны міг не паўторыцца*
*болей,*
*Дык спяшайся так жыць,*
*каб душа прарасла*
*Да нашчадкаў,*
*як кветка любові.*

## Лістапад

*Дні ці лістоту ахапкамі*
*Кідае восень на дол,*
*З інею шэрага зябкую*
*Тчэ павуціну вакол.*

*Чуецца музыка новая*
*Між ацішэлых прысад,*
*Гэта жыццё падсумоўвае*
*Разам са мной лістапад.*

*Шэпча лістота аб пройдзеным,*
*Недзе загубленых днях,*
*Лепш бы шаптала*
*аб знойдзеным,*
*Лепш бы — аб новых шляхах.*

*Сумныя позіркі восені,*
*Лічыць апошнія дні,*
*Ведае: скача па просіні*
*Прывід на шэрым кані…*

*Раптам бурштынавай казкаю,*
*Нібы жыцця пасланец,*
*Жоўты, маленечкі, ласкавы*
*Ўспыхнуў ля ног дзьмухавец.*

*Бабіным летам абуджаны,*
*Ён ці захоча цвісці:*
*Кветкам і людзям не суджана*
*Час выбіраць у жыцці.*

*Згіне халоднаю ночкаю,*
*Звяне ў атаве-траве…*
*Кветку ўкрываю лісточкамі —*
*Болей няхай пажыве.*

## Як лёгка думаць у садах

*Вятрам халодным не спыніць*
*Зялёных колераў разводдзе,*
*Бо так прызначана*
*ў прыродзе:*
*Вясною ўсё імкнецца жыць.*

*Вятрам халодным не суняць*
*Усходаў да святла імкненне,*
*Ужо сняткуе нараджэнне*
*На лузе травяная раць.*

*Лістоты клейкай навізна*
*Здзіўляла ненадоўга вока,*
*У садзе з кветкавага шоўку*
*Уборы дрэвам тчэ вясна.*

*І засмяецца прыгажосць:*
*Сустрэнуць яблыні-дзяўчаты*
*У пышных падвянечных*
*шатах —*
*Ізноў успомняць маладосць.*

*Як лёгка думаць у садах*
*Аб чалавечым прызначэнні,*
*Бо мы — як голле і карэнне,*
*Мы — і пачатак, і працяг…*

**У наш час у краінах Блізкага Усходу, асабліва ў Іране, адметнай папулярнасцю карыстаюцца творы вялікага персідскага паэта Хафіза Шыразі (сапраўднае імя Шамсадзін Махамед). Нарадзіўся ён каля 1325 года і памёр у 1389 ці 1390 годзе. Выданні з вершамі паэта разыходзяцца мільённымі тыражамі. Упершыню ў Еўропе творы Шыразі былі перакладзены на нямецкую мову знакамітым І. В. Гётэ. Затым на рускую мову значную іх падборку пераклаў выдатны рускі паэт Афанасій Фет.**



## Хафіз ШЫРАЗІ

***

*Калі б я мог возерам*
*стацца начным,*
*Ты поўняй у ім бы купалася!*

*Калі б дываном я паўстаў*
*лугавым,*
*Ты б кветкай на ім*
*красавалася!*

*Калі б я ружовым*
*узняўся кустом,*
*Ты б ружай на ім усміхалася!*

*Калі б я пшанічным*
*узрос каласком,*
*Ты б пташачкай*
*ім частавалася!*

***

*Раптам я без вонкавых*
*прычын,*
*Засумую, затужу адзін,*

*Цела нехлямяжае маё*
*Стане ныць і сохнуць,*
*без журбін,*

*Не давай мне горкіх*
*лекаў піць:*
*Не выношу гэтых*
*чартаўшчын.*

*Прынясі ты чару мне віна,*
*З ёю лютню, флейту,*
*тамбурын.*

*Гэта ж як не вылечыць мяне,*
*То мядовых вуснаў*
*дай рубін.*

*А калі ж і тут не акрыяю,*
*Ты кажы, што мёртвы*
*Шамзадзін.*

***

*Даверыўшы сябе*
*на волю лёсу,*
*Мая душа жыла*
*галубкай вятлай;*
*Але тваё — о сонца! —*
*полымя ўзвілося, —*
*І спапяліла ты яе агнём*
*сусветным.*

*І вось, глядзі, што з попелу*
*ўзышло:*
*Палётам ганарыся вольным,*
*боскім,*
*Вялікаснага генія крыло*
*Імкне арла да радасці*
*дзівоснай.*

***

*Сышло дыханне з неба,*
*І словы я распазнаю:*
*«Хафіз! Лічыць не трэба,*
*Што творыш песню сам сваю.*

*З прадвечнага пачатку*
*На ружах і лілеях*
*Узор яе чароўны*
*Тут, у раі, я не таю!»*

***

*Не трывож ты мозг*
*мой кволы,*
*Не чакай парад разумных,*
*Толькі лютняў ён вясёлых,*
*Толькі флейтаў поўны*
*шумных.*

***

*Дзесяць языкоў лілеі*
*Шлюць удзячнасць салаўю,*
*І нямеючы, струменяць*
*Найдухмяную бруіо.*

***

*Асалодна водар вее*
*Тваіх кудзераў жывых!*
*Удыхаў бы саладзей я*
*Водар дум і мар тваіх.*

***

*Твой вечна, твой няўхільна,*
*Да смерці аж маёй;*
*Засну ж як пад зямлёй —*
*Хоць пылам хай магільным,*
*А ўзнікну прад табой.*

**Пераклад**
**Міхася ПАЗНЯКОВА**

Алесь КОЗЕЛ

# Бармалей

*Апавяданне*



Двое маладых мужчын сядзелі на лаўцы каля пад'езда і ціха гаманілі. А што яшчэ трэба шчырым сябрам, калі іх не турбуюць ніякія справы? Ды і вечар, лагодны і цёплы, гэтаму спрыяў. Да таго ж яны толькі што вярнуліся з піўбара, дзе выпілі па куфлю піва пад вэнджанага карася, дзякуючы чаму настрой іх быў амаль святочны. Гледзячы на сяброў, ніхто б і не падумаў, што яшчэ зусім нядаўна рэдка якая сустрэча гэтых хлопцаў абыходзілася без бойкі. І каб тады хто-небудзь сказаў, што можа быць інакш, то і сам мог атрымаць за гэта на абаранкі, бо пачыналася іх сяброўства зусім не па-людску.

…Алік, невысокі каржакаваты дзяцюк, падышоў да кампаніі хлопцаў, што абступілі лаўку на рагу нашай ціхай, амаль вясковай вуліцы, дзе ўсе звычайна і збіраліся. Такія сустрэчы для раёна, што звaўся Старажоўкай, лічыліся справай звычайнай. На Аліка не звярнулі ўвагі, бо слухалі мясцовага гітарыста, які спрабаваў расчуліць сяброў невядомай песняй. У тагачаснай моладзі былі ў модзе песні, дзе абавязкова згадваліся каханне, развітанне, суд, турма, а потым, як вынік, здрада, крывавая помста і гэтак далей. Глупства, вядома, але слухалі. Яго заўважаў толькі адзін з хлопцаў і прывітаўся, але так, што Алік адразу ж схапіў таго за штрыфлі пінжака. Бойка разгарэлася раптоўна. Хлопцы пакаціліся па зямлі, счапіўшыся, як два разлзаваныя каты. Усе дружна кінуліся іх раздымаць, забыўшыся пра музыку-спевака, тым больш падзеі, пра якія спявалася, цяжка было параўнаць з тымі, што адбываліся побач. У абодвух былі ўжо скрываўленыя насы, а там калі не суд і турма, то бальніца гарантавана. А прычын для бойкі, па праўдзе кажучы, не было, хоць, як ні дзіўна, гэта была мянушка.

Дваровая мянушка ў падлеткаў — рэч звычайная. І што, здавалася б, тут такога дзіўнага і тым больш крыўднага? Вось сябра дзяцінства, што меў прозвішча Брэмшмідт, мы называлі Брэндулем, і ён за гэта не крыўдаваў. Вядома ж, мянушкі і прыдумляюць для таго, каб у час гульняў іх зручней было прамаўляць. І калі якая не падабаецца, то лепш гэтага не паказваць, бо толькі сам сабе нашкодзіш.

Сапраўднае прозвішча Аліка — Селяновіч, у выніку чаго мянушак атрымаў аж некалькі: Сала, Селя і нават Салата. Ні адна з іх не прыжылася, а потым усё змянілася.

Было ў Аліка любімае слоўца — «Дарданела», і паўтараў ён яго дзе трэба і дзе не трэба, нават калі злаваўся. Неяк хтосьці з хлопцаў узгадаў школьны ўрок, калі Алік атрымаў двойку па геаграфіі за тое, што ніяк не мог знайсці на карце праліў Дарданелы, і яго некалькі дзён дражнілі гэтым пралівам. Хутка той выпадак забыўся, але з цягам часу хлопца інакш і не называюць — Дарданела. Алік гэтай новай мянушкай амаль ганарыўся. Дарданела — гэта вам не нейкая там Салата. А потым адзін чалавек у адну хвіліну ўсё змяніў. І хто змяніў!

Здарылася гэта цёплым летнім надвячоркам, калі ў чарговы раз да кампаніі хлопцаў далучыўся Юзік, мажны мужчына на лёгкім падпітку. Ён прывітаўся з усімі па чарзе, а калі дайшло да Аліка, дык трэба ж было таму ляпнуць:

— Здароў, Піскун! Што, зноў жонка з хаты выгнала?

— І ты будзь здароў, Бармалей, — спакойна адказаў той. — А наконт жонкі ведай: воўк сабакі не баіцца, да не любіць звягі. Ажэнішся, дык сам будзеш ведаць. Акрамя таго… — Скончыць ён не паспеў, бо Алік падскочыў да Юзіка і злосна крыкнуў:

— Дарадца мне знайшоўся! І які я табе Бармалей?

— Як які? — здзівіўся той. — Ты ж сам увесь час узгадваеш нейкую Бармалею.

— Сам ты Бармалея, Дарданелу тваю… так і гэтак… — пачаў лаяцца Алік.

— Ну вось зноў, — узрадаваўся той. — Сам жа і кажаш — Бармалея. Толькі ты растлумач, што за Бармалея такая? Знаёмая твая ці, можа, радня?

— Ах ты, ёлупень неадукаваны, — ускіпеў Алік. — Трэба было хоць у школе як след вучыцца. Тады б не толькі Дарданелу, а і Магелана ведаў бы. А ты буквар скурыў і на гэтым адукацыю скончыў.

…Шчыра кажучы, Юзік нават і не ведаў, што існуе такі праліў і, тым больш, дзе ён знаходзіцца. Ды і выгаварыць гэта слова у яго б не атрымалася. На восьмым класе ён завяршыў сваю адукацыю і, на радасць бацькам і настаўнікам, пайшоў працаваць. Вучоба давалася Юзіку з такой цяжкасцю, што з яго часта пасмейваліся, нягледзячы на тое, што ён быў трохі старэйшы за ўсіх нас. На дзіва, гэты добра складзены чалавек меў вельмі тонкі, пісклявы голас, што давала падставу для ўсё новых жартаў. Ён не звяртаў на іх асаблівай увагі, бо злосным не быў. Усе ўзгадвалі выпадак, што яскрава сведчыў пра гэта. Неяк пасля таго, як Юзік ажаніўся, мясцовыя хлопцы цэлы вечар стукалі яму ў дзверы, а самі хаваліся, і давялі чалавека да таго, што ён надумаў злавіць жартаўнікоў і пажурыць іх. Урэшце выбег у калідор барака, дзе меў двухпакаёўку, але зачапіўся за нацягнуты шнур, ушчэнт расквашыў лаўку побач і амаль прыдушыў ката, які на ёй спаў. На грукат і крыкі ўжо выбегла жонка, збегліся суседзі, а ён толькі пасмяяўся, звяртаючыся да жонкі:

— Ну ты бачыш, Маня? Хлопцы пастку зрабілі, а я, дурань, у яе злавіўся.

І вось сёння ён меў магчымасць хоць аднаму з тых жартаўнікоў ды адпомсціць. А хлопцы, што тут сабраліся, цесна абступілі месца спрэчкі і весела рагаталі. Скончылася ўсё тым, што Алік махнуў на гэта рукой, сказаўшы:

— Што ўзяць з малапісьменнага і наогул цёмнага чалавека.

Ужо адыходзячыся, ён пачуў, як Гарык, выпускнік мастацкага вучылішча, сказаў:

— А ён і сапраўды падобны да Бармалея. — На яго здзіўлена зірнулі, і Гарык растлумачыў: — На артыста з кінафільма «Айбаліт-66».

— І сапраўды падобны, — пачулася з усіх бакоў, і хлопцы пачалі ўзгадваць тое кіно. Алік не стаў слухаць далей, а панура паплёўся дахаты. Ён ужо зразумеў: усё гэта так проста не скончыцца. А наступным днём, падыходзячы да лаўкі, ён зноў пачуў:

— А вось і Бармалей з'явіўся.

— Самі вы Бармалеі, — буркнуў Алік. — Хай толькі прыйдзе гэты пісклявы невук. Я яму пакажу, як з падручнікаў самакруткі рабіць!

— Ага, — падхапіў хтосьці. — Ты прымусь яго знайсці праліў Бармалея.

— Ды ён і Мінск на карце не знойдзе!

— А мы яго зараз і спытаем. Вунь ён ідзе, — і ўсе дружна зарагаталі.

Той ужо быў блізка, і Алік зразумеў, што нічога добрага яму не варта чакаць. Так яно і атрымалася. Не прайшло і паўгадзіны, як яны з Юзікам схапіліся за грудкі. Хлопцы зразумелі, што перасараліся, і пачалі супакойваць забіякаў. Паслалі ў краму «ганца», выпілі па кроплі віна, узяліся расказваць анекдоты і ўзгадваць смешныя выпадкі з удзелам таго ж Юзіка. Усе рагаталі, і толькі адзін Алік быў не ў гуморы. Ён зразумеў, што мянушка прыліпла назаўсёды. Неўзабаве пачуў яе нават на заводзе, дзе працаваў. Аднойчы, калі рамантавалі станок, памочнік, маладзенькі хлопец, нечакана спытаў:

— Слухай, Бармалей, як ты думаеш… — і запнуўся, убачыўшы разлзаваны твар таварыша. А калі заўважыў у руцэ Аліка малаток, то паспешна дадаў: — Ну чаго ты, чаго? Усе цябе так завуць. Я думаў, ты ведаеш…

…Ішоў час, а ў жыцці амаль нічога не мянялася. Мянушка — як тая кароста. Што ён толькі пасля не рабіў! І ўвагі старайся не звяртаць, і біцца кідайся, і ўсё было дарэмна. А потым жыццё само ўсё і паправіла.

Непадалёку будавалі вялікі гатэль, прыватныя дамы паступова пачалі зносіць, а жыхары атрымлівалі новыя кватэры. Спачатку знікла некалькі вуліц побач з будоўляй, а потым руйнаваліся і астатнія, і ўсе жыхары раз'ехаліся хто куды. Нельга сказаць, што былі задаволеныя ўсе без выключэння. Многія разумелі: на балконе не пасадзіш бульбу ці тую ж цыбулю. І людзі старэйшага ўзросту дужа засумавалі. А вось Алік радаваўся. Ён даўно быў жанаты, меў сына, і яму прапанавалі кватэру на тры пакоі, бо Алік забіраў да сябе і старую маці. Для яе, ды і для ўсіх астатніх, так было найлепей. А да таго ж ён спакусіўся на большыя квадратныя метры і выбраў даволі далёкі мікраараён, спадзеючыся, што там, дзе яго ніхто не ведае, крыўдная мянушка знікне сама па сабе.

…Усе ведаюць той закон, па якім луста хлеба абавязкова падае маслам уніз. Так атрымалася і тут. Чалавек, якога ён менш за ўсё хацеў там напаткаць, быў Юзік. Ён атрымаў кватэру ў тым жа самым доме, толькі ў суседнім пад'ездзе. Пры сустрэчы яны не здароўкаліся, быццам наогул былі незнаёмыя. Спачатку гэта трохі бянтэжыла, але потым Алік пачаў прывыкаць да новага жыцця. Усё было так, што лепей і не трэба. Прасторная кватэра здавалася проста палацам. Па ваду да калонкі хадзіць не трэба, ёсць і халодная, і гарачая. Не трэба рыхтаваць на зіму дровы — грэюць батарэі. Працаваў ён цяпер недалёка ад дома і на сваім прадпрыемстве карыстаўся заслужанай павагай, бо спецыялістам быў выдатным. А мянушка забылася, і, здавалася б, чаго яшчэ трэба? Але разам з мянушкай знікла і яшчэ штосьці, і Алік не адразу гэта зразумеў.

У мітусні і неразбярысе перасялення мала хто здагадаўся абмяняцца новымі адрасамі. А цяпер, калі той-сёй жыве нават зусім побач, хай сабе і ў суседнім двары, то як ты яго тут знойдзеш? А калі не побач? Нават калі знайшоўся хтосьці з былых суседзяў, дык што? Ехаць на другі канец горада, каб выпіць куфель піва і перакінуцца словам?

Алік сядзеў на лаўцы каля пад'езда і не ведаў, куды сябе падзець. Само сабой узгадалася даўняе. Неяк пасадзілі яны з бацькам у сваім агародчыку некалькі яблынь, а між іх трапілася адна груша-бэра. Бацька выпрасіў яе ў свайго знаёмага. Малы Алік уяўляў, як вырасце гэта цудоўнае дрэва і якія будуць смачныя на ім плады. Але, на жаль, груша засохла. Праўда, спачатку распусцілася лісце, але потым пачало жаўцець, і ў сярэдзіне лета дрэва ссохла. Бацька растлумачыў, што не ўсе, відаць, карані былі выкапаны як належыць, і самыя патрэбныя, выкопваючы, абсеклі. Вось і ён, як тое дрэва, змушаны быў пакінуць месца, дзе вырас. А карані, відаць, засталіся там.

— Здароў, Алік, — пачулася раптам збоку, і ён азірнуўся. Побач стаяў Юзік. — Можна прысесці?

Алік разгублена кіўнуў, бо, сказаць па праўдзе, не ведаў, як яму быць. Тым больш, прывітаўся Юзік нармальна, без падколу, а значыць, падставы для сваркі няма. Ён скоса зірнуў на суседа і заўважыў, што той і не думаў жартаваць. Наадварот, выглядаў сумным і нават разгубленым. Можа, бяда якая?

— Што здарылася, Юзік? — устрывожана спытаўся ён.

— Нічога, — адказаў той. — Але ведаеш… я тут як у лесе або ў пустэльні. Народу многа, а людзей, знаёмых людзей, няма. Хадзіў у піўбар, але і там нікога. Піць аднаму? Я ж не алкаголік. Можа, разам «дзеўбанём» па піве? Га?

Вось тут Алік і зразумеў, што не адзін ён абсек свае каранькі і што Юзіку таксама цяжка прызвычаіцца да ўсяго новага, хай сабе і не зусім дрэннага.

Па дарозе яны разгаварыліся, і Юзік расказаў, што працуе тут, у іхнім ЖЭСе, сантэхнікам.

— Калі што якое, то ты мне скажы, — горача прапанаваў ён. — Дом новы, але ўсякае можа здарыцца. А я тут у пяцідзясятай кватэры. Не забудзешся?

— Не, — кіўнуў Алік. — Слухай, — трохі памаўчаўшы, працягваў ён. — Ты не злуйся на мяне за… Ну за тое слова. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць…

— За Бармалея? — нечакана для сябе дапамог Алік. — А, нічога страшнага.

— Во-во, — узрадаваўся Юзік. — Тым больш, што гэта значна лепш за Піскуна, а я ж не злуюся.

— Ат, — махнуў рукой Алік. — Усё гэта было там… даўно.

— Праўда твая, — згадзіўся Юзік. — У дзяцінстве было… Там і засталося.

І яны міжволі паглядзелі ў той бок, дзе засталіся і Старажоўка, і іх вуліца, якой ужо не існавала і на якой, здавалася б, толькі ўчора блукала іх дзяцінства, цяпер такое ўжо далёкае.

Яны зайшлі ў піўбар, узялі па куфлю піва і селі за столік.

— Алік! — раптам пачулася з другога боку залы. — Алік!

Ён нават не адразу зразумеў, што звяртаюцца менавіта да яго. А калі падняў галаву, то ўбачыў траіх хлопцаў, якія сядзелі непадалёку. Двое з іх былі добра знаёмыя, бо ў свой час жылі па суседстве. Іхнюю вуліцу знеслі на пагода раней.

— Хлопцы, ідзіце да нас! — махалі яны рукамі. Узрадаваныя Алік з Юзікам адразу накіраваліся да іх. Павдароўкаліся і пазнаёміліся з трэцім.

— Гена, — назваўся той і дадаў. — Або проста: Кракадзіл.

— Алік, — пацiснуў працягнутую руку Алік і дадаў: — А можна проста: Бармалей.

Усе на момант змоўклі, а потым дружна засмяяліся.

— А я Піскун, а калі не падабаецца, то проста: Юзік, — і Алікаў сусед пад радасны рогат працягнуў сваю шырокую, як лапата, далонь. А потым пачухаў патыліцу і дадаў: — Так хлопцы, гэту сустрэчу трэба абмыць. А паколькі ў мяне сёння здарылася неблагая хаўтурка, то я і «банкую». Чакайце, я зараз. — І падаўся да буфета.

Ад усяго гэтага ў Аліка неяк адразу пацяплела ў грудзях, знік былы сум і на душы стала так прыемна і лёгка.

— Можа, і мы прыжывёмся на новым месцы? — сказаў ён не ўслых, а сам сабе. Але усё нібыта ўсё адразу пачулі, а Гена нават усміхнуўся і падхапіў:

— А куды мы дзенемся? Дрэвы прыжываюцца, і мы прыжывёмся!

# 1/16

**Філалагічнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта споўнілася 75 год. Праўда, гэта не значыць, што філалагічная адукацыя ў БДУ пачалася толькі з верасня 1939-га: глыбокае вывучэнне літаратур і моў ва ўніверсітэце было арганізавана з самага яго заснавання (1921), на этнолага-лінгвістычным аддзяленні факультэта грамадскіх навук, а з 1922 г. прадоўжылася на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака.**



*Фота Міхася Кенькі*

*Сядзяць (злева направа): Вольга Прыемка, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Андрэеў. Стаяць: Ганна Жагала, Надзея Канабеева, Міхась Кенька, Славяна Шамякіна, Таццяна Лук'янава, ІзольдаКівель, Вольга Лынша, Рыма Кавалёва, Святлана Крылова.*

Менавіта тады працаваць у БДУ сталі такія вядомыя вучоныя, як М. Янчук (1859—1921), І. Замоцін (1873—1942), А. Вязнясенскі (1888—1966), Я. Барычэўскі (1883—1934), М. Піятуховіч (1891—1937), П. Бузук (1891—1938) і інш. Калі б не гэта — сёння, відаць, К. Крапіва і П. Броўка, П. Глебка і А. Звонак, П. Галавач, Я. Скрыган і іншыя, што скончылі БДУ яшчэ ў 1920-я гг. (а тады ж тут працаваў і сам Якуб Колас!), не маглі б пахваліцца сваімі грунтоўнымі творчымі набыткамі.

Ды пра факультэт — асобная размова. Сёння ж гутарка толькі пра адну з шаснаццаці цяперашніх кафедраў факультэта, якая мае непасрэднае дачыненне да навучання не толькі будучых настаўнікаў, але і пісьменнікаў, архівістаў, музейшчыкаў, журналістаў. Кафедра тэорыі літаратуры ў гэтыя дні адзначае свой першы сціплы юбілей, сваё 20-годдзе.

У верасні 1994 г. на кафедру, арганізаваць і ўзначаліць якую даручылі мне, з іншых кафедраў філфака былі пераведзеныя кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Анатоль Мікалаевіч Андрэеў (цяпер д. ф. н., прафесар), Рыма Мадэстаўна Кавалёва, Алена Васільеўна Карасёва (на кафедры працавала да 1997 г.), Міхась Паўлавіч Кенька, Таццяна Іванаўна Шамякіна (цяпер д. ф. н., прафесар, з 2004 г. — загадчык кафедры сучаснай беларускай літаратуры і культуры БДУ), выкладчыкі Вольга Віктараўна Прыемка (цяпер к. ф. н., дацэнт) і Ізольда УладзіміраўнаКівель (цяпер ст. выкладчык). З факультэта журналістыкі на кафедру прыйшла к. ф. н., дацэнт Паліна Паўлаўна Ткачова (пазней пераехала на працу ў іншы горад). Сам жа я — гадаванец колішняй славутай кафедры беларускай літаратуры БДУ, якую доўгі час узначальваў прафесар М. Р. Ларчанка і на якой працавала цэлае сузор'е вучоных і пісьменнікаў: Сцяпан Александровіч, Ніл Гілевіч, Сяргей Гусак, Дзмітрый Бугаёў, Алег Лойка, Іван Навуменка, Рыгор Семашкевіч, Любоў Тарасюк, Кузьма Хромчанка ды інш.

Паступова кафедра тэорыі літаратуры папаўнялася і сваімі выхаванцамі. Так, скончыўшы аспірантуру пры кафедры, яе выкладчыкамі сталі: Таццяна Марозава (цяпер к. ф. н., дацэнт), Славяна Шамякіна (цяпер к. ф. н., ст. выкладчык), Таццяна Лук'янава (цяпер к. ф. н., дацэнт). Былы метадыст кафедры Святлана Крылова ў 2006 г. была пераведзена на пасаду выкладчыка (цяпер ст. выкладчык). Яе замяніла саіскальніца Вольга Лынша. У 2003 г. да кафедры была прымацавана факультэцкая лабараторыя беларускага фальклору. На прынцыпах сумяшчальніцтва яе ўзначаліла Марозава.

З першых дзён існавання кафедра пачала забяспечваць на ўсіх шасці аддзяленнях філфака выкладанне курсаў «Уводзіны ў літаратуразнаўства», «Тэорыя літаратуры», «Беларускі фальклор», «Рускі фальклор», «Славянскі фальклор», «Міфалогія», «Гісторыя і тэорыя сусветнай культуры», пазней — факультатыву «Прыкладное літаратуразнаўства» (на аддзяленні «Беларуская філалогія»). Былі створаныя вучэбныя праграмы і метадычныя дапаможнікі: «Тэорыя літаратуры» (1995; склад. А. Андрэеў і Т. Шамякіна), «Тэорыя літаратуры» (2004; склад. А. Андрэеў), «Уводзіны ў літаратуразнаўства» (2006, 2014; склад. В. Рагойша, М. Кенька, Т. Марозава), «Беларускі фальклор» (2005, 2007; склад. Р. Кавалёва), «Фальклор славянскіх народаў» (2008; склад. В. Прыемка), вучэбная праграма факультатыву «Прыкладное літаратуразнаўства» (2003; склад. В. Рагойша, М. Кенька, Т. Марозава, П. Ткачова). Намаганнямі фалькларыстаў кафедры (Р. Кавалёвай, В. Прыемка, Т. Марозавай) у выдавецкім цэнтры БДУ у 1996 —




2014 гг. выйшлі ў друк 10 выпускаў «Метадычных указанняў і ілюстрацыйнага матэрыялу да правядзення фальклорна-краязнаўчай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта», асобны метадычны дапаможнік «Фальклорная практыка: Метадычныя рэкамендацыі і праграма-апытальнік» (2008). Дарэчы, у правядзенні фальклорнай практыкі вялікую дапамогу пачала аказваць факультэцкая вучэбна-навуковая лабараторыя беларускага фальклору.

На кафедры створаны грунтоўныя працы, якія дапушчаны Мінадукацыі Беларусі у якасці вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў усіх ВНУ рэспублікі. У прыватнасці, пяру прафесара А. Андрэева належыць першы ў Беларусі падручнік (у 2-х ч.) «Тэорыя літаратуры» (2012), дапаможнік «Асновы літаратурна-мастацкай творчасці» (2012). В. Рагойша, М. Кенька і Т. Марозава выдалі першы вучэбны дапаможнік для класічных універсітэтаў «Уводзіны ў літаратуразнаўства» (2010, 2012).

Асобныя члены кафедры актыўна працуюць не толькі на вышэйшую, але і на сярэднюю школу Беларусі. Так, аўтар гэтых радкоў узначальвае секцыю беларускай мовы і літаратуры Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Мінадукацыі Беларусі, уваходзіць у склад ВМК. Пад яго рэдакцыяй і з яго ўдзелам выйшаў вучэбны дапаможнік «Беларуская літаратура» для 9 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання (2011; аўтары — В. Рагойша, Т. Шамякіна, Т. Кабржыцкая, В. Праскаловіч); таксама ён выпусціў працы «Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці» (2009) і «Асновы вершазнаўства» (2013), разлічаныя найперш на школьнікаў і абітурыентаў. Падчас працы на кафедры Т. Шамякіна выдала (у суаўтарстве) дапаможнік для школ, ліцэяў, ВНУ «Беларуская літаратура XI—XX ст.» (1999) і хрэстаматыю «Беларуская літаратура. Проза 20-х гадоў» (1996).

На кафедры праводзіцца значная навукова-даследчая праца, прычым і сярод студэнтаў. Вучоныя кафедры асэнсоўваюць тэарэтычныя аспекты развіцця беларускай вуснай народна-паэтычнай творчасці і беларускага прыгожага пісьменства, вывучаюць асобныя пытанні тэорыі літаратуры, даследуюць усходнеславянскую міжлітаратурную супольнасць XX стагоддзя, класічныя і некласічныя мадэлі свету ў фальклоры і літаратуры, аналізуюць «вузкія месцы» ў вывучэнні праблем тэорыі літаратуры і літаратурных сувязей у сярэдніх навучальных установах і ВНУ і інш. На традыцыйных міжнародных канферэнцыях «Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай», што праводзяцца на філфаку з 1992 г., працуюць асобныя секцыі па праблемах тэорыі літаратуры. На штогодніх студэнцкіх канферэнцыях пад кіраўніцтвам выкладчыкаў кафедры ладзяцца абавязковыя секцыі фалькларыстыкі і тэорыі літаратуры. Фалькларысты кафедры праводзяць штогадовыя рэспубліканскія навуковыя Шырмаўскія чытанні (з 1999 г.). Вучэбна-навуковая лабараторыя беларускага фальклору сумесна з кафедрай выступае ініцыятарам перыядычных міжнародных фальклорна-этналінгвістычных канферэнцый (з 2004 г.), міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Фальклор і сучасная культура» (з 2006 г.), рэспубліканскага навукова-практычнага семінара «Праблемы выкладання фальклору ў ВНУ» (з 2007 г.).

Кафедра клапоціцца і пра падрыхтоўку маладых спецыялістаў па тэорыі літаратуры і фалькларыстыцы. У 1998 г. студэнт-пяцікурснік А. Дуброўскі за навуковую працу «Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша» атрымаў самую ганаровую ўзнагароду БДУ — Дыплом імя У. І. Пічэты. Пазней (у 2003 г.) на гэтую тэму ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Пры кафедры існуе аспірантура. У канцы 1994 г. была абаронена рэкамендаваная кафедрай кандыдацкая дысертацыя В. Прыемка «Вясельныя песні Піншчыны». У 1998 г. у Маскве доктарскую дысертацыю «Цэласны аналіз літаратурнага твора» па спецыяльнасці «Тэорыя літаратуры» абараніў А. Андрэеў. У 2001 г. паспяхова абаронены доктарская дысертацыя «Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія» Т. Шамякінай і кандыдацкая дысертацыя аспіранткі І. Шаўляковай «Тэорыя літаратурных тропаў: Метафара і сімвал (генезіс, эвалюцыя, тэндэнцыі развіцця)». Новае стагоддзе кафедра распачала паспяховай абаронай двух кандыдацкіх дысертацый — Т. Марозавай «Паэтыка беларускіх народных песень перыяду каляндарных пераходаў. Семантыка. Вобразны лад. Кампазіцыя» (2001) і М. Трыфаненкавай «Матыў змеяборства ва ўсходнеславянскай фальклорнай традыцыі: генезіс, семантыка». Пазней кандыдатамі навук сталі Н. Дзянісава, С. Лебедзеў, В. Смірнова, М. Кудрашова, І. Лапцёнак, Т. Лук'янава. У 2013 г. за працу «Тыпалогія і структура аб'ектных мастацкіх вобразаў (на матэрыяле беларускіх чарадзейна-фантастычных казак)» кандыдатам філалагічных навук стала выкладчыца кафедры С. Шамякіна, а Ж. Кароткая-Некрашэвіч паспяхова абараніла доктарскую дысертацыю.

Кафедра тэорыі літаратуры традыцыйна распрацоўвае некалькі калектыўных тэм, напрыклад, «“Мадэль свету” як кампанент зместу ў творах літаратуры і фальклору». Апрача гэтага, супрацоўнікі кафедры ў той ці іншай ступені далучаны да выканання Дзяржаўнай праграмы «Гуманітарныя навукі як фактар развіцця беларускага грамадства і дзяржаўнай ідэалогіі». Асноўныя вынікі даследавання як першай, так і дзвюх астатніх тэм чакаюцца ў наступным годзе.

Не так даўно на філфаку БДУ ў вучэбныя планы навучання па спецыяльнасцях «Беларуская філалогія» і «Руская філалогія» быў уключаны вучэбны курс «Тэксталогія» і арганізавана навукова-практычная магістратура па спецыяльнасці «Тэксталогія». І вучэбны курс, і магістранцкая спецыяльнасць выраслі з трохгадовага факультатыву «Прыкладное літаратуразнаўства», які з 2003 г. чытаецца для студэнтаў «Беларускай філалогіі». Дарэчы, з факультатыву лагічна ўзнік і такі напрамак навучання, як «Літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць». Дзякуючы гэтаму выпускнікі філфака па названых спецыяльнасцях будуць мець у дыпломах аб заканчэнні БДУ наступны запіс: «Філолаг. Выкладчык беларускай (або рускай) мовы і літаратуры. Літаратурна-выдавецкі супрацоўнік». Перад нашымі выпускнікамі-філолагамі адкрываецца шырокае поле дзейнасці, вялікія магчымасці працаўладкавання.

Вучоныя кафедры ў апошнія гады пачалі актыўна ўзбагачаць электронную бібліятэку БДУ арыгінальнымі дэпаніраванымі выданнямі. У электронным варыянце ўжо з'явіліся некаторыя працы В. Рагойшы і А. Андрэева. БДУ увайшоў у 500 лепшых універсітэтаў свету ў вялікай ступені дзякуючы электроннай бібліятэцы.

Актыўны ўдзел супрацоўнікі кафедры прымаюць і ў грамадскім жыцці: выступаюць у СМІ, чытаюць лекцыі, сустракаюцца з школьнікамі і настаўнікамі. Некаторыя нашыя навукоўцы — члены і старшыні навуковых і навукова-метадычных камісій, вучоных саветаў і інш. Тры супрацоўнікі кафедры (А. Андрэеў, М. Кенька, В. Рагойша), апрача навуковай і выкладчыцкай працы, займаюцца яшчэ і літаратурна-мастацкай творчасцю, з'яўляюцца сябрамі пісьменніцкіх саюзаў. У прыватнасці, Анатоль Андрэеў — аўтар шэрагу раманаў, аповесцей і апавяданняў, уладальнік «Залатога Купідона». М. Кенька пераклаў на беларускую мову некалькі аповесцей і раманаў Юзафа Крашэўскага, Генрыка Сянкевіча і інш. Аўтар артыкула выдаў кнігу «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі» (2013), якую склалі пераклады на беларускую мову твораў пераважна ўкраінскай паэзіі (у тым ліку знакамітая драма-феерыя Лесі Украінкі «Лясная песня»), а таксама асобныя вершы паэтаў паўднёва- і заходнеславянскіх, літоўскіх, грузінскіх і казахскіх.

Вось вынікі працы за 20 год толькі адной кафедры сёлетняга юбіляра — філалагічнага факультэта БДУ.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Жыццё, багатае на вершы і ўспаміны

## Максім Лужанін і Яўгенія Пфляўмбаўм

Жыццё Максіма Лужаніна (2 лістапада 1909 — 13 кастрычніка 2001) было багатым на падзеі, знаёмствы і кнігі. Яшчэ ў 1978 г. Уладзімір Гніламёдаў зазначыў, што пад аўтарствам М. Лужаніна пабачыла свет «больш паўсотні кніг». Варта спадзявацца, яны знаходзілі свайго чытача — «які радуецца пісьменніцкай усмешцы, падхоплівае ўпадабанае ўголас або цішком уцірае слязу».

Слуцкія настаўніцкія курсы, Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, літаратурныя аб'яднанні «Маладняк» і «Узвышша», цягнік на поўнач, дзе канвойныя грукаюць «Эй вы, надземы, цішэй!»… Потым пасада галоўнага рэдактара кінастудыі «Беларусьфільм», сакратарская праца ў Якуба Коласа — М. Лужанін меў што прыгадаць, і яму пашчасціла з магчымасцю пачувацца ва ўспамінах вольным. Героямі яго эсэ часта былі людзі, «пра якіх ужо амаль няма каму ўспамянуць»: Юлі Таўбін і Змітрок Астапенка з «амсціслаўскай троіцы», Сяргей Дарожны, Паўлюк Трус, Уладзімір Жылка. Для кожнага ён знаходзіў добрае слова, азначаў характэрныя рысы ў знешнасці і паводзінах, тлумачыў творчыя прыхільнасці, згадваў жыццёвыя акалічнасці.

Сярэдзіна 20-х гадоў XX стагоддзя выдалася яркай і ўнікальнай: плюс-мінус дваццаць ды нават дзесяць гадоў, і атрымаецца зусім іншая эпоха. Час НЭПу — гэта дробныя крамкі, шыкоўныя рамізнікі, «цёртыя ў сэнсе элегантнасці і абыходлівасці» уласнікі багатых магазінаў у «портачках з англійскага бастону». А побач — галаднаватыя, але вясёлыя дзяўчаты і хлопцы ў «паўкажушках з саматугам выробленых аўчын», якія рушаць у тэхнікумы ды ўніверсітэты. «Менш трывалыя і больш уражлівыя перажывалі, прымалі ўісту тую няроўнасць, ламаліся, кідаліся на недастойныя ўчынкі, гінулі. А ў тых, хто пісалі, прарываліся разгубленасць, цьмяныя і цёмныя фарбы…» — падагульняў



М. Лужанін у эсэ пра Тодара Кляшторнага, згадваючы яго «ледзяныя гітары».

Многія творы Лужаніна, апублікаваныя ва «Узвышшы», таксама напісаны «цьмянымі фарбамі». Пагодзімся з У. Гніламёдавым: тагачаснай беларускай паэзіі «шкодзілі рамантычная адцягненасць, дэкларацыйная агульнасць, касмізм, «канструктывізм», уплывы...». З іншага боку, апяванне ўсяго паэтычнага, захапленне росамі, косамі, дыяментамі, сакраментамі з'яўлялася проста ад маладога жадання спяваць — і рэдка хто ў васямнаццаць-дваццаць гадоў прыходзіць да літаратуры з нейкай іншай нагоды. Проза М. Лужаніна гэтай пары «рытмізаваная, «лірызаваная», адметная суб'ектыўна-экспрэсіўным стылем». Напэўна, лепшы твор часу «Узвышша» — падарожжа «Случчына» (1929), дзе ёсць і іронія, і крытычны погляд на «правінцыйнае» савецкае жыццё, і замілаванне вясной, і нават лірычны абразок пра каханне.

«У вёсцы выразна відаць новае. Нават як я памятаю, было інакш.

— Ну як ты жнеш? — гаворыць маці дачцэ. — Усе пальцы пазрэзвала! Дай я табе зраблю ілюстрацыю».

«Мушыная самакрытыка» і «на тры капейкі лірыкі» спалучаюцца ў гэтым творы даволі суладна, а да ўспамінаў пра ваколіцы Слуцка — Трайчаны, Востраў, Выгоду — М. Лужанін зноў звяртаецца ў 1987-м.

У аўтабіяграфічных эсэ пісьменнік не абмінаў увагай і аўтараў новага пакалення: Андрэя Макаёнка, Уладзіміра Караткевіча. Пры ўзнаўленні дыялогаў, запамінальных сітуацый М. Лужанін нібы адыходзіць убок, устрымліваецца ад суб'ектыўных

> *Працяжнік невядомае*
> *працягласці!*
> *Даўжэй за шлях ад нас*
> *і да планет*
> *І карацей за міг*
> *спрадвечнай прагнасці —*
> *Прыход у свет*
> *і зноў зварот у свет.*

каментарыяў і перадачы ўласных эмоцый — бо ўспаміны не пра сябе, а пра іншых.

«Першая размова наконт сцэнарыя была ў нас з вока на вока. Гарачыліся, спрачаліся, а да паразумення не наблізіліся ні на крок.

— Добра! Вынесем на рэдкалегію. Паслухаем, што скажуць хлопцы.

Караткевіч не паверыў:

— А хіба ў вас рэдкалегія працуе не па камертону?»

На пытанне Караткевіча (а разам з ім — і сённяшніх беларускіх літаратараў) Лужанін спакойна зазначае: «У далейшым Караткевіч меў магчымасць пераканацца, што загадзя нашым абмеркаваннем «тон не задаваўся». Куляшоў і я выказвалі свае погляды на сцэнарыі, толькі выслухаўшы ўсіх на пасяджэннях. А тады ён пачаў бочыцца і ледзь-ледзь вітаўся».

Гэтаксама аб'ектыўна М. Лужанін імкнуўся пісаць пра Якуба Коласа ў аповесці-эсэ «Колас расказвае пра сябе». Народны пісьменнік добразычлівы, шчыры, уважлівы, стрыманы, пунктуальны, дасціпны, але часам і ўсхваляваны, абураны, кеплівы… Здараецца, надта ўжо горача ён цешыцца жыццёвым зменам, надта аддана абвяшчае, што «Беларус дружна галасаваў за Саветаў». Аднак на гэткія пасажы прыходзіцца шмат каштоўных успамінаў (Коласаўскіх і, зрэдку, уласных), шмат добрых думак, значных і сёння: «І дарэмна зусім вакол Купалы і Коласа робяць голае месца: яны, бачце, усю пару дарэвалюцыйную паднялі. Нас пара падняла. Калі гэтак насыпаць курганы заслуг, дык абавязкова побач яміну выкапаеш». Паўсотні кніг — значны след у беларускай літаратуры, але самым вядомым творам М. Лужаніна, напэўна, будзе менавіта гэта «класічная праца коласазнаўства».

…Чым далей, тым больш добрых вершаў прыпадае на кожнага беларуса. З'яўляюцца новыя аўтары, якія развіваюць і ўзбагачаюць родную літаратуру, а напісанае застаецца — быў бы чытач! Многія творы М. Лужаніна, напісаныя ў 1930 — 1950-я гады, згодна з Л. Гарэлік, адметныя «ідэалагічнай запраграмаванасцю, патэтыкай, дэкларацыйнасцю». У выпадку гэтага аўтара «найбольш плённым для паэтычнага натхнення сталі 1970 — 1980-я гады», прычым адной з галоўных рыс Лужанінскай паэзіі даследчыкі называюць эпічнасць. Не ўсе творы адзначаны паэтычнай дасканаласцю, часам у рыфмаванай форме аўтар занатоўвае даволі будзённыя, прыземленыя думкі, прычым недакладныя рыфмы яго зусім не палохаюць.

Лепшыя вершы М. Лужаніна напісаны шчыра і прываблiваюць асаблівай чысцінёй уражання, звычайна яны прысвечаны каханню, сяброўству, прыродзе (зіме, буслам, грыбам). З замежных вандровак паэт часам прывозіў творы, вольныя ад з'едлівых дакораў у бок капіталізму ды буржуазіі:

*І ў галярні на сцяне*
*Вельмі ветла прышпілілі:*
*«Дзякуй вам, што вы ў мяне*
*Не смяцілі, не курылі».*

*А садоўнікі мудрэй*
*Свой злажылі напамінак:*
*«Што карысна для людзей,*
*Непрыдатна для раслінак».*

Пабудова сказаў, адметныя слоўцы ў вершах М. Лужаніна — па-сапраўднаму беларускія, і ў яго кнігах чуецца тая ўзорная «народная мова», да якой так часта апелявалі нашы пісьменнікі і мовазнаўцы. Справа не толькі ў больш правільным словаўтварэнні, але і ў тым, што «народная мова» свабодная, вобразная, менш рацыянальная, чым у сучаснага чалавека.

Ва ўспамінах пра Аркадзя Куляшова звяртае на сябе ўвагу шчырая супольнасць у творчай працы: пісьменнікі рэгулярна сустракаюцца, абмяркоўваюць напісанае, дзеляцца заўвагамі, чытаюць ужо новую рэдакцыю… Кожны сябар — яшчэ і чытач, і рэдактар, і крытык, а творчасць — гэта сапраўдная праца з доўгім сядзеннем за сталом. Паводле Лужаніна, А. Куляшоў доўга працаваў над «Варшаўскім шляхам», над паэмай «Далёка да акіяну», а таксама «правіў і скрачаў бязлітасна, як сябе» пасмяротныя зборнікі Ю. Таўбіна ды З. Астапенкі. «Ці льга было дастасоўваць сваю меру патрабавальнасці, меру сталага і спелага паэта да іх, што так і не выйшлі з юнацкага ўзросту ў паэзіі», — пытаецца сам у сябе М. Лужанін. Ці не спрыялі супольныя абмеркаванні і рэдагаванні твораў пэўнай уніфікацыі стылю, выпрацоўцы сістэмы калектыўных норм і імператываў? — удакладнім сёння і мы, гартаючы зборнікі даволі падобных вершаў, напісаных, аднак, рознымі аўтарамі…

«Парадокс: паэзія патрабуе найвялікшай свабоды і лёгкасці і ў той жа час найстражэйшай дысцыпліны і дакладнасці», — зазначаў М. Лужанін у артыкуле «Майстэрства і немайстэрства». У яго кнігах нярэдка сустракаюцца ўзоры добрай паэзіі, а ўспаміны пісьменніка пра «Узвышша» і маладых паэтаў вельмі каштоўныя для разумення літаратурнай сітуацыі 1920-х гадоў.

# Табе з падзякаю...

Яўгенія Пфляўмбаўм нарадзілася на адзін год і адзін дзень раней за Максіма Лужаніна (Алеся Каратая). Дастаткова крыху пагартаць яе зборнік «Сувой жыцця» (1989), каб пераканацца, што класічнае азначэнне Музы паэта ёй зусім не пасуе. Пакуль муж выдае кнігу за кнігай, займае высокія пасады, атрымлівае ўзнагароды, Я. Пфляўмбаўм піша ў стол — пра людзей-муляжоў з безуважнымі тварамі, пра няпраўду, з якой даўно не змагаецца праўда, пра пустыя, няшчырыя вершы. Два паэты пачыналі падобна — у агульным рэчышчы маладнякоўскага вершаскладання, якое і сёння здзіўляе выяўленчымі знаходкамі. Следам за мужам Я. Пфляўмбаўм паехала ў Сібір — зрэшты, такіх жанчын у гарадку Марыінску было нямала. Па вяртанні з высылкі творчыя дарогі гэтых аўтараў разыходзяцца. Здаецца, М. Лужанін і Я. Пфляўмбаўм не маглі існаваць у адной жыццёвай прасторы — у адным доме, у адной кватэры, за адным пісьмовым сталом. Іх магчыма ўявіць разам толькі як два бакі аднаго медаля альбо ордэна, напрыклад, «Знака Пашаны».

У свеце Я. Пфляўмбаўм няма вучняў Ільіча, сыноў камуністаў і нядобрага буржуазнага свету. Тут дзьме вецер, зрэдку прабіваецца сонца, тут шмат самоты, болю і чужой маны. Тут жывуць птушкі, зіма штогод прыходзіць на змену восені, а водгулля грамадскага жыцця зусім не чуваць: акно завешана глухімі шторамі, да ідэалагемаў і штампаў эпохі паэтка ўжо мае ўстойлівы імунітэт. Узнагароды ад імя народа, віншавальныя клічнікі ўхвалаў і прамоў хутчэй здзіўляюць яе, чым абураюць: хіба магчыма гэта ўспрымаць сур'ёзна?

Што нязменна абурае Я. Пфляўмбаўм, дык гэта жабрачыя радкі рамесніцкага верша:

*Калі ж і зачэпіць, дык толькі таму,*
*Што пусткай дыхне, занядбаннем,*
*Халодным выслоўем, як быццам прымус*
*Паэзію знішчыў дазвання.*

Яе ўласная творчасць — раскрыццё душы, ратунак ад адзіноты і скажонага хлуснёй жыцця. Я. Пфляўмбаўм дакладна ўсведамляе неадпаведнасць уласных паэтычных памкненняў грамадска-палітычнай сітуацыі і ў адным з першых вершаў раздзела «Трыццатыя гады» замыкае ў шуфляду будучыя творы:

*Ёсць штосьці няхлюйнае*
*ў нагасці праўды,*
*Як, зрэшты, у кожнае нагасці смелай,*
*І ў вершы ты, мусіць,*
*пазбаўлена праў тых,*
*Каб так агалялася сэрцава цела.*

Паэзія Я. Пфляўмбаўм вельмі прыватная, ёй чужасная эмацыйная аднастайнасць, але эксперыменты з рыфмай і рытмам застаюцца далёка ў мінулым. Сталасць — гэта ўдумлівасць і глыбіня. У анатацыі да зборніка «На захадзе сонца» пазначана, што «кніга прасякнута цеплынёй і добразычлівасцю», — і гэта не прыкрая недакладнасць. Бо нягледзячы на кволасць ды хваравітасць



Я-гераіні, заўсёднае прадчуванне «блізкай парошы», Я. Пфляўмбаўм шмат пра што піша добра і чула. Гэта і родны Мінск, і мімозы для масквічак, і верталёт у небе, якому ўсміхаецца чужы сын.

«Табе з падзякаю за вызваленне радкоў», — так паэтка падпісала мужу «Сувой жыцця». Адрознай была іх роля ў грамадска-літаратурным жыцці, але талент Я. Пфляўмбаўм быў не меншым за талент М. Лужаніна. Напэўна, голас паэткі быў голасам многіх жыхароў Савецкай краіны — маці, жонак, сясцёр, якія страцілі ў скрутную эпоху не толькі блізкіх людзей, але і магчымасць жаночага шчасця.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Любоў народа нешта ж значыць…»

Дзесяць гадоў таму, 14 кастрычніка 2004 года, беларусы развіталіся з Іванам Шамякіным. Але сказаць, што яго не стала, нельга: пісьменніка не толькі памятаюць, але і чытаюць, што па сённяшнім часе — красамоўнае сведчанне любові.

Інтэрв'ю, якое мы прапануем вам, можна лічыць размовай адразу з дзвюма асобамі: з дачкой вядомага пісьменніка і ў той жа час — з навукоўцам, доктарам філалагічных навук, прафесарам, крытыкам, публіцыстам і эсэістам Таццянай Шамякінай. Спалучэнне поглядаў староннягa і блізкага — што можа быць цікавей?

**— Падаецца, дома Іван Пятровіч з'яўляўся рэдка, а калі з'яўляўся, то замыкаўся ў кабінеце за працай. Ці так гэта? Ці заўжды Вам ставала бацькоўскай увагі?**

— Тата, безумоўна, вельмі многа працаваў і ў Саюзе пісьменнікаў, і на грамадскай рабоце: як дэпутат Вярхоўнага Савета, як старшыня Камітэта абароны міру. Шмат гадоў ён быў намеснікам старшыні і першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі — усяго аддаў Саюзу дваццаць шэсць гадоў жыцця, ніколі пра тое не пашкадаваўшы. Займаўся непасрэдна вытворчымі пытаннямі, усёй руціннай працай. Але гэта дазваляла значна палегчыць лёс і быт пісьменнікаў. Бацька хадзіў да чыноўнікаў «выбіваць» кватэры і вельмі ганарыўся ў канцы жыцця, што палепшыў жыллёвыя ўмовы прыкладна 200 пісьменнікам. Шмат зрабіў Шамякін для выдання твораў беларускіх аўтараў у Расіі, для атрымання калегамі ўзнагарод, званняў і г. д. Сёння нават цяжка ахапіць маштаб зробленага ім. Але гэтак жа цяжка сучаснаму пакаленню, у тым ліку маладым пісьменнікам, уявіць матывы яго дзейнасці. Гэта быў чалавек абсалютна шчыры ідэйна. Больш такіх — унутрана ідэйных — мне ў сваім жыцці бачыць не давялося.

Ён лічыў, што савецкая ўлада зрабіла з яго творцу, а таму ён абавязаны, маючы талент, як мага болей гэтай уладзе аддаваць — у выглядзе дапамогі іншым людзям. Тое, што з усіх вядомых пісьменнікаў Беларусі ён найбольш напісаў пра сваіх калег — каб іх памяталі, — думаю, добра яго характарызуе.

Тым не менш ён шмат увагі надаваў сям'і. Мне ўжо прыходзілася пісаць пра выключную ўдзячнасць бацькам, якія павазілі нас па Савецкім Саюзе, па суседніх рэспубліках. Ездзілі ўсюды на машыне — бацька яшчэ ў пачатку 1950-х гадоў купіў «Победу». Нядрэнна вадзіў. З усіх сваіх камандзіровак прывозіў дзецям адмысловыя падарункі.

Нават у гарадзе, дзе меў фенаменальную колькасць абавязкаў, тата дарыў нам свой час. Акрамя таго, у нас дома быў звычай — снедаць, абедаць, вячэраць абавязкова ўсёй сям'ёй, за адным сталом, за якім заўсёды вяліся цікавыя гутаркі. А поўнасцю ў нашым распараджэнні бацька быў у любімай вёсцы Церусе на Гомельшчыне (на радзіме мамы), куды мы ездзілі кожнае лета.

**— Сённяшнія прыхільнікі творчасці Івана Шамякіна (перадусім моладзь) цікавяцца: якую літаратуру Іван Пятровіч абіраў для Вас, ці займаўся Вашай адукацыяй?**

— З замілаваннем думаю сёння, што выбарам асноўнай сваёй дысцыпліны, якую з задавальненнем чытаю на філфаку ўжо 30 гадоў — гісторыі сусветнай культуры, — я абавязаная бацьку: ён збіраў мастацкія альбомы, буклеты, паштоўкі, а я любіла іх разглядаць, міжволі запамінаючы шэдэўры мастацтва. Сапраўднае веданне культуры — гэта веданне, набытае менавіта такім шляхам, літаральна з ранняга дзяцінства, сабранае па крупінках.

Тата любіў мне чытаць дзіцячыя кнігі, якія прывозіў у асноўным з Масквы, купляючы ў «Кнігарні пісьменніка» самыя цікавыя, рэдкія выданні. А колькі падпісак аформіў — уся прыгодніцкая, фантастычная літаратура: «Библиотека приключений», зборы твораў Майна Рыда ў 6 тамах, Купера ў 6 тамах, Стывенсана ў 5 тамах, Жуля Верна ў 12 тамах, Джэка Лондана ў 13 тамах, Вальтэра Скота ў 20 тамах. Я, як і ён, лічу, што любы падлетак павінен прайсці стадыю захаплення такога кшталту літаратурай.

Выдатна памятаю, як адным зімнім вечарам бацька чытаў мне, шасцігадовай, «Новую зямлю» Я. Коласа, урачыста гэта абставіўшы. А падзея ж стала знакавай — студэнткай, дацэнтам, прафесарам я шмат займалася і працягваю займацца творчасцю Я. Коласа, палюбіўшы яе на ўсё жыццё.

Дадам пра кола чытання. Паколькі па службовых справах менавіта Шамякін найчасцей ездзіў у Маскву, то прывозіў ён літаральна чамаданы кніг, не толькі дзіцячых, а і вельмі рэдкіх, якіх у Мінску нават у бібліятэках не было. У выніку ўжо да 1960-х гадоў у нас склалася ўнікальная бібліятэка. Толькі пра яе захаванне бацька не клапаціўся — раздаваў сябрам направа і налева. Ніводнай кнігі ніхто ніколі нам не вярнуў. Цяперашнім часам уздыхну па некаторых, але і сама я заўсёды раздавала кнігі, і мае дзеці.

**— Што ў вольны час чытаў сам Іван Пятровіч, каго з калегаў найбольш любіў? І які ваш любімы твор Івана Шамякіна?**

— У розныя гады Шамякін любіў розныя жанры. Усё ж найбольш — рэалістычныя творы. Абавязкова чытаў сваіх калег, а пра многіх з іх такога сказаць не магу — не цікавіліся творчасцю іншых. Магчыма, на ацэнкі Шамякіна ўплывалі яго сяброўскія адносіны з многімі пісьменнікамі. Але, скажам, з Аркадзем Куляшовым яны асаблівымі сябрамі не былі (хутчэй прыяцелямі), а яго паэзію бацька вельмі цаніў. Надзвычай любіў Максіма Танка — і як асобу, і як паэта. Выключна высока ставіў прозу І. Мележа (а як пра яго цудоўна напісаў!) і Я. Брыля. У пачатку 2000-х гадоў з беларускіх класікаў засталіся фактычна Шамякін і Брыль (Васіль Быкаў заўсёды трымаўся асобна ад сваіх калег), і яны вельмі кранальна, клапатліва ставіліся адзін да аднаго, пра што мала хто ведае.

Мой любімы твор у Івана Шамякіна — «Трывожнае шчасце». І тут са мною салідарныя вельмі многія чытачы.

**— Ці пісаў Іван Пятровіч казкі, вершыкі адмыслова для Вас?**

— Спецыяльна для мяне — не, не пісаў: нас, дзяцей, было чацвёра. А вось для ўнука Іваначкі-малодшага, сына маёй сястры Алесі, ён, бадай, пісаў спецыяльна — ужо ў канцы жыцця. Склалася кранальная кніга «Промні маленства». Для маленькага Івана гэта стала своеасаблівым стымулам паспрабаваць сябе ў прозе навелістычнага тыпу — друкаваўся ў «Вясёлцы». Я некалі пісала ў «ЛіМе» пра дзіцячую творчасць — вось яшчэ адзін прыклад.

**— Шамякін трапіў у войска ў дзевятнаццаць гадоў — акурат у 1940 годзе і прайшоў усю вайну, дэмабілізаваўшыся ў 1946-м. Як у сям'і гаварылася пра вайну — ці не гаварылася?**

— Абавязкова гаварылася, але не ў выглядзе разгорнутых аповедаў, а як надарыцца момант — цікавымі згадкамі, асобнымі дэталямі, напрыклад, я любіла слухаць пра аленя, прыручанага на бацькавай батарэі. Акрамя таго, да нас амаль кожны дзень прыходзілі госці — сябры і калегі Шамякіна. Усе яны былі ветэранамі і любілі ўспамінаць пра ваенныя падзеі. Я рабіла ўрокі ў пакоі праз сценку ад бацькавага кабінета і ўсё чула. І, зноў-такі, нічога ў гэтым жыцці не прападае дарма. Добрае ўяўленне пра бацькавы ваенныя гады спрыяла мне, калі я пісала пасляслоўі да некаторых яго раманаў («Трывожнае шчасце», «Зеніт») для Збору твораў у 23-х тамах, выданне якога заканчваецца ў гэтым годзе.

**— Вы абралі навуковы шлях адразу, ці, можа быць, марылі і пра пісьменніцтва, беручы прыклад з бацькі?**

— Калі я вучылася ў школе, мае сачыненні (а іх тады пісалі ледзь не кожны тыдзень), заўсёды былі лепшымі: іх чыталі ў класе, адпраўлялі на розныя конкурсы. Бацька ў сваім дзённіку «Два месяцы ў Нью-Ёрку» (1964 г.) пісаў, што мае лісты да яго, у параўнанні з лістамі іншых родзічаў, найбольш цікавыя, і выказваў спадзяванні пра мой будучы пісьменніцкі лёс. Адразу скажу, што я ўсё ж не толькі літаратуразнаўца-навуковец — ёсць вялікая колькасць перакладаў, у тым ліку больш за дзесяць вялікіх твораў Шамякіна, выдадзеных у Расіі. Сабралася ўжо і шматлікая публіцыстыка, эсэ. Найбольш падабаецца пісаць менавіта эсэ, у якіх спалучаюцца і навуковыя звесткі, і мемуарныя сведчанні, і разважанні, і публіцыстычны пафас. Усяго ў мяне больш за 400 прац розных жанраў. Але здольнасці ствараць мастацкія творы няма абсалютна. Затое здзіўляе і захапляе сапраўдны мастацкі талент маёй дачкі Марыі. Прытым ён абсалютна адрозніваецца ад характару таленту дзядулі.

**— З якімі замежнымі пісьменнікамі вы маглі б параўнаць свайго бацьку? І што вылучае Івана Пятровіча сярод пісьменнікаў беларускіх?**

— Цікавае пытанне. Падумаю... Па лёгкай манеры аповеду і прыхаванай іроніі, мяркую, яго можна параўнаць з Грэмам Грынам, пры тым, безумоўна, варта абстрагавацца ад сапраўднай прафесіі і звычак англійскага аўтара — ні шпіёнам, ні распуснікам, як Грын, Шамякін не быў (*смяецца*). Наадварот, прытрымліваўся выключна кансерватыўных сялянскіх каштоўнасцей. Я думаю, што на ваенныя творы Шамякіна вялікі ўплыў аказаў Канстанцін Сіманаў: усё ж менавіта сіманаўская трылогія «Жывыя і мёртвыя» вытрымала праверку часам і з'яўляецца лепшай у савецкай літаратуры эпапеяй пра ваенныя падзеі. Шамякін добра ведаў К. Сіманава, які аднойчы быў у нас дома, так што пісьменніка выдатна памятаю і я.

Сярод беларускіх аўтараў Шамякіна вылучае клопат выключна пра свайго чытача, а не пра крытыкаў: што яны пра яго напішуць, якія новыя прыёмы знойдуць. Між іншым піяр і ў савецкі час існаваў, толькі меў іншыя формы. Нельга аспрэчваць, што некаторыя аўтары «раскручваліся» на поўную сілу, а іншых замоўчвалі. Праўда, прадстаўнікі старэйшага, сярэдняга пакалення чытачоў і сёння нязменна называюць сярод любімых пісьменнікаў Івана Шамякіна. Любоў народа нешта ж значыць...

**— Які з яго твораў вы лічыце найбольш сучасным, найбольш адпаведным 2010-м гадам?**

— Па важнасці пастаўленых праблем, па эмацыйным напаўненні, па аўтарскім пафасе на першае месца я паставіла б раман «Вазьму твой боль». Твор пра тое, як савецкія людзі, столькі нядаўна перажыўшыя, пачалі ў добрыя, мірныя часы рабіцца эгаістамі. Няхай бы сучасныя чытачы задумаліся пра тое, да чаго прыводзіць непрадухіленне злу — асабліва на фоне сучасных палітычных і ваенных падзей. Нязменна актуальным застаецца і раман «Злая зорка» — фактычна адзіны ў беларускай літаратуры буйны твор пра трагедыю Чарнобыля. Ён тым больш каштоўны, што Шамякін — непасрэдны сведка наступстваў аварыі: неўзабаве пасля катастрофы ён шмат разоў ездзіў на Гомельшчыну — гэта ж яго родныя мясціны, сустракаўся з людзьмі, якія непасрэдна сутыкнуліся з бядой, сам страшна перажываў.

**— Як за гэтыя дзесяць гадоў змянілася стаўленне да творчасці Івана Шамякіна і ўласна да асобы пісьменніка?**

— Мы, родзічы І. Шамякіна, вельмі ўдзячныя ўладам за ўвагу і павагу да бацькі: яго імем названа вуліца ў Мінску, універсітэт у Мазыры, за кошт дзяржавы пабудаваны помнік на магіле, выдаецца Збор твораў у 23 тамах. З боку СМІ ўвага, безумоўна, недастатковая. У дзень 10-годдзя з дня смерці яго калегі, пісьменнікі з Саюза пісьменнікаў Беларусі, прыехалі на магілкі, былі таксама і мае кафедральцы. Але ні адно выданне не адгукнулася. Выдатнейшыя словы пра Шамякіна, выказаныя Алесем Бадаком на сустрэчы Прэзідэнта з пісьменнікамі 19 кастрычніка, прывёў толькі адзін канал — СТБ. Прадстаўленне літаратуры на тэлебачанні — вельмі балючая тэма.

Нельга зніжаць маральную планку ў ацэнцы ідэалагічных, мастацкіх з'яў: усе нашыя няшчасці — ад занядбання этычнага імператыву. Нельга рабіць святымі і, адпаведна, рэкламаваць творцаў, якія непрыстойна паводзілі сябе — у адносінах да народа, да ветэранаў, да калег — у «ліхія» 1990-я гады. Усё ж пісьменнік павінен быць маральным узорам для народа. Найперш пісьменнік! Іван Шамякін адпавядае самым высокім маральна-этычным патрабаванням.

***Гутарыла Наста ГРЫШЧУК***



*Іван Шамякін з дачкой Таццянай і ўнучкамі Славянай і Марыяй, 1980-я гг.*

# Гербы: загадкі і таямніцы

**Праз тыдзень у выдавецтве «Янушкевіч» пабачыць свет новая кніга. Гэта работа кандыдата гістарычных навук, вядомага геральдыста Аляксея Шаланды «Таямнічы свет беларускіх гербаў. Шляхецкая геральдыка Вялікага княства Літоўскага». Наш карэспандэнт сустрэлася з аўтарам яшчэ да з'яўлення даследавання на паліцах кнігарняў, каб даведацца пра адметныя рысы выдання, патэнцыйных чытачоў кнігі, а таксама разгадаць некаторыя загадкі і таямніцы беларускіх гербаў.**



Фота Кастуся Дробава

**— Цягам апошніх год пабачыла свет некалькі асобных даследаванняў, прысвечаных розным аспектам беларускай геральдыкі. Чым будзе адрозніваца новая кніга ад тых, што выходзілі раней?**

— Сапраўды, у нашай краіне з'яўляліся цікавыя выдавецкія праекты, звязаныя з геральдыкай. Адзін з іх — мая кніга геральдычных і сфрагістычных нарысаў, прысвечаных сімвалам і гербам беларускіх зямель у X — XVIII стст., што выйшла ў 2012 годзе ў выдавецтве «Беларуская навука». Гэтая работа была прысвечана зямельным гербам — сімвалам Полацкай дзяржавы, гербу ВКЛ і яго адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Кніга, што цяпер рыхтуецца да друку, разглядае гербы шляхты ВКЛ — гэта яшчэ адзін вялікі комплекс гербаў з прыватнаўласніцкай, асабовай, родавай геральдыкі. Тут даследуюцца ў асноўным гербы прывілеяванага саслоўя ў ВКЛ. У планах праца над новай, ужо трэцяй кнігай, якая будзе прысвечана мяшчанскай геральдыцы — геральдычным знакам мяшчан магдэбургскіх гарадоў Беларусі, у тым ліку гербам Францішка Скарыны. Гэта, па сутнасці, этапы аднаго вялікага выдавецкага праекта.

**— Ваша першая праца выйшла ў фармаце навуковага выдання. Новая кніга, наколькі я ведаю, будзе навукова-папулярнай. Чым абумоўлены выбар новай формы і стылю прадстаўлення вынікаў даследаванняў?**

— Гэта тлумачыцца спробай крыху спрасціць успрыняцце навуковых тэкстаў звычайнымі чытачамі. Не сакрэт, што навуковыя кнігі чытаюцца пераважна спецыялістамі, у дадзеным выпадку — толькі геральдыстамі. Таму паўстала задумка паспрабаваць ператварыць навуковы тэкст у навукова-папулярны, каб звычайнаму чытачу, які хоча нешта новае даведацца пра беларускія гербы, было дзе шукаць патрэбныя звесткі. Наколькі ўдала атрымаецца — будзем меркаваць, калі кніга выйдзе. Ад яе поспеху і запатрабаванасці залежыць і фармат, які я выберу для напісання чарговага даследавання.

**— Геральдыстаў у Беларусі няшмат, а людзі зараз усё больш захапляюцца даследаваннем гісторыі сваіх родаў. Ці адчуваеце зацікаўленасць грамадства вынікамі вашай працы? Ці звяртаюцца да вас па дапамогу?**

— Вельмі прыемна адчуваць цікавасць, прыемна, калі кнігі набываюць. Мяркуючы па першай, якая вытрымала два выданні, можна казаць пра існаванне пэўнага недахопу літаратуры такога кшталту на беларускім кніжным рынку. Цікавасць да маёй працы, безумоўна, ёсць. Але сцвярджаць, што кнігі па геральдыцы могуць канкурыраваць з мастацкімі творамі, раманамі, дэтэктывамі, нельга. Гэта вельмі спецыфічная літаратура. І тут мы разлічваем у першую чаргу на чытача, які цікавіцца гісторыяй і сваёй краіны, і свайго роду. Можа быць, мы нават шукаем індывідуальны падыход: у выданні, што рыхтуецца, чытачы знойдуць і свае прозвішчы, і прозвішчы сваіх блізкіх, змогуць пабачыць гербы ўласнага роду або сваякоў. У кнізе можна будзе прачытаць пэўныя факты пра роды, якія і сёння пражываюць у нашай краіне.

Фармат, стыль кнігі таксама вельмі важны. Мы хочам пашырыць аўдыторыю — менавіта праз даступнасць тэксту, яго падачу. Наша задача — ствараючы беларускамоўныя тэксты, рабіць іх больш папулярнымі. Людзі заўсёды цікавіліся і цікавяцца гісторыяй сваёй краіны. Я б нават сказаў, што тэма мінуўшчыны ніколі не выходзіла з дзясятку самых папулярных. Попыт на гістарычную і, у прыватнасці, геральдычную літаратуру ёсць, і нам яго трэба задавальніць якаснымі тэкстамі.

**— А ці можа новае выданне зацікавіць замежнага чытача?**

— Так, асабліва польскага, літоўскага, расійскага, украінскага. Наша гісторыя вельмі пераплецена, а яшчэ цясней звязаны лёсы людзей. Лепш пра гэта сведчыць геральдыка. Можна нават сказаць, што яна адлюстроўвае генеалагічныя сувязі паміж родамі самага рознага этнічнага паходжання. У кнізе шмат гаворыцца пра так званыя генеалагічныя гербы, якія адлюстроўваюць радавод уладальніка: па бацьку і па маці. У іх вельмі часта можна ўбачыць адлюстраванне трох-чатырох пакаленняў, таму яны ў некаторай ступені дазваляюць аднавіць генеалагічныя сувязі. Кніга будзе карысная ўсім, хто мае інтарэс не толькі да геральдыкі, але і да генеалогіі, і да сфрагістыкі (навука пра пячаткі).

**— Вы адмыслова адсочваеце, хто і ў якіх краінах цікавіцца вашымі работамі?**

— Свет геральдыкі вельмі спецыфічны і аб'ядноўвае людзей, якія цікавяцца навукай, незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Гэта, так бы мовіць, «геральдычны інтэрнацыянал». Мяне вельмі цікавіць, што адбываецца ў галіне вывучэння гербаў у Польшчы, Літве, Украіне, Расіі. Мы абмяняемся інфармацыяй з калегамі, маем кантакты паміж сабой. Гэтыя прафесійныя сувязі таксама ўплываюць на двухбаковы інтарэс да нашых работ. Канечне, прапорцыі паміж унутранымі і знешнімі спажыўцамі розныя, але наяўнасць другіх сведчыць, што тэма цікавая не толькі ў межах Беларусі.

**— Распавед пра гербы складана ўявіць без выяў гэтых самых родавых знакаў. У новай кнізе мы пабачым шмат малюнкаў?**




— Вельмі шмат. Геральдыку проста немагчыма чытаць без візуальнага шэрагу. І калі маеш малюнак, графічны вобраз, то інфармацыя лепей успрымаецца. З самага пачатку ў кнізе задумвалася змясціць многа выяў, але ад некаторых давялося адмовіцца: надта вялікая колькасць назбіралася. Мы вырашылі абмежавацца малюнкамі, без якіх немагчыма абысціся: ілюстрацыямі, прывязанымі да тэксту, тымі, што дапамагаюць успрымаць змест. Кніга ўсё ж не толькі папулярная, але і навуковая, таму пэўныя рысы навуковага выдання ў ёй таксама прысутнічаюць. Якраз у прадстаўленні малюнкаў навуковы складнік прасочваецца ярчэй за ўсё. Для выдання мы падабралі архіўныя выявы гербаў, якія атрымалася адшукаць падчас працы над кнігай. Тут даюцца рэестры, спасылкі, увесь навуковы апарат, каб была магчымасць праверыць інфармацыю, што змяшчаецца ў кнізе.

**— Падчас даследавання беларускіх гербаў ці маеце вы эгаістычную мэту вывучыць гісторыю свайго роду?**

— Не, бо я і так ужо валодаю дастатковай інфармацыяй. Мой род, як некалі казалі, з гаспадарскіх сялян, паходзіць з былога Гарадзенскага павета Вялікага Княства Літоўскага. Самая ранняя згадка пра яго ў вядомых мне пісьмовых крыніцах датуецца 1680 годам. Гэта тое, што я знайшоў у працэсе геральдычных і генеалагічных даследаванняў, але пакуль што глыбей у гісторыю свайго роду не зазіраў. Спадзяюся, калі часу будзе трохі больш, я вярнуся да гэтай тэмы, бо ўсё ж цікава даведацца пра свае карані болей.

**— Кніга мае назву «Таямнічы свет беларускіх гербаў». Можа, раскрыеце некаторыя з сакрэтаў для нашых чытачоў?**

— Ужо сама назва кажа пра тое, што фактычна ўся інфармацыя, змешчаная ў выданні, — або малавядомая, або невядомая зусім. Да прыкладу, мала хто ведае, што ў расійскай дзяржаве гербы з'явіліся пазней, чым у ВКЛ. Фактычна, геральдыка ў Расіі становіцца вядомая толькі з Пятроўскіх часоў. Яшчэ ў XVII ст. яна была развітая вельмі слаба. Расійскія роды, што прыязджалі ў ВКЛ, выбіралі гербы пад уздзеяннем мясцовага шляхецкага асяроддзя. Існавала два шляхі. Адзін з іх — ператварэнне сваіх уласных, традыцыйных, прывезеных з радзімы эмблем і выяў у гербы. Князі Шуйскія, Крупскія, баяры Лядскія, іншыя маскоўскія роды карысталіся менавіта такімі гербамі. Другая частка маскоўскага баярства далучалася да польскіх гербаў, якія былі распаўсюджаны ў шляхты ВКЛ.

Калі ж разглядаць нейкія казусы, то ўвогуле для геральдыкі ВКЛ было характэрна не вельмі добрае веданне законаў і правілаў складання гербаў. Геральдыка як з'ява зарадзілася на Захадзе, прыйшла да нас з Заходняй Еўропы. Менавіта там былі вызначаныя дакладныя каноны стварэння гербаў. У нас жа гэтыя правілы не заўсёды былі вядомыя, таму ў гербах ВКЛ многа і памылак, і спецыфічных асаблівасцей. Напрыклад, вельмі распаўсюджаным у геральдыцы шляхты на нашых землях у XVIII ст. было выкарыстанне княжацкіх шапак — мітраў. Хоць роды не мелі княжацкага тытулу, гэты сімвал выкарыстоўваць вельмі любілі. Існавала меркаванне, што палякам трэба ўжываць у гербах выяву кароны, бо яны жывуць у каралеўстве (Кароне), а жыхарам ВКЛ — вобраз княжацкай мітры, бо яны жывуць у Княстве.

Ёсць у новай кнізе вельмі цікавыя гісторыі, звязаныя з наданнем гербаў манархамі асабліва заслужаным людзям. Увогуле, які герб ні вазьмі — ён мае нейкую таямніцу, бо ў ім зашыфраваны сімвалічны сэнс. Кожны герб не выпадковы: ён расказвае гісторыю роду або чалавека. За кожнай выявай — асобная гісторыя, якую даводзіцца вывучаць, даследаваць, расшыфроўваць. Гэта не значыць, што ў кнізе ўсе загадкі разгаданыя — некаторыя застаюцца на наступныя даследаванні, для іншых даследчыкаў. Працы хопіць усім. Мора беларускай геральдыкі настолькі бяздоннае і маладаследаванае, што мая новая кніга — толькі адна з прыступак на шляху вывучэння геральдычнай спадчыны, якую пакінулі нашы продкі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Кабзар»: сучасны фармат

**Значнай падзеяй у культурна-мастацкім жыцці Беларусі ў 2014 годзе стаў выхад з друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» кнігі Тараса Шаўчэнкі. «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…», у якой упершыню прадстаўлена ўся ўкраінскамоўная паэзія Кабзара ў класічных перакладах на беларускую мову. Аб'ёмнае, з густам афармлелае выданне, што пабачыла свет па заказе і пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі і дзякуючы руплівай працы ўкладальнікаў Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы, стала годным падарункам беларускай мастацка-творчай грамадскасці да 200-гадовага юбілею Тараса Шаўчэнкі.**




У сённяшніх надзвычай складаных варунках сацыяльнага і палітычнага жыцця Украіны, у цяжкі для ўкраінскага народа час калектыву слынных даследчыкаў-украіністаў паспяхова ўдалося з сучасных светапоглядных пазіцый актуалізаваць агульначалавечую змястоўнасць, невычэрпны гуманістычны патэнцыял, палымяны патрыятычны пафас і грамадзянскую мужнасць паэзіі Кабзара. Асаблівая ўвага аддадзена шаўчэнкаўскаму піетэту стаўлення да слова, якое творца надзяліў магутнай энергетыкай нацыятварэння і велізарным патэнцыялам абуджэння народна-нацыянальнай духоўнасці, крышталізацыі маральна-духоўных арыенціраў.

Патрэба ў падобным выданні выспявала даўно, нягледзячы на тое, што цікавасць да паэтычнай спадчыны Кабзара ў Беларусі існавала заўсёды: беларускія паэты звярталіся да яе з зайздросным пастаянствам. 125-гадовы юбілей Тараса Шаўчэнкі ў 1939 г. адзначаны выданнем «Кабзара» на беларускай мове, які змяшчаў найбольш поўную на той час падборку перакладаў, зробленых Янкам Купалам, Якубам Коласам, К. Крапівой, П. Броўкам, А. Куляшовым, П. Глебкам, Змітраком Бядулем, М. Клімковічам. Зборнік быў перавыдадзены ў 1952 г. Кнігай «Вершаў і паэм» Т. Шаўчэнкі ў 1989 г. распачата папулярная серыя «Скарбы сусветнай літаратуры» (укладальнік Э. Мартынава, аўтар прадмовы К. Хромчанка). Зборнік змяшчаў ужо вядомыя і новыя пераклады, зробленыя Р. Барадуліным, Н. Гілевічам, В. Зуёнкам. У 1995 г. у серыі «Школьная бібліятэка» апублікаваны «Вершы, паэмы» Т. Шаўчэнкі (для старэйшага школьнага ўзросту, укладальнік і аўтар прадмовы В. Бехціна). У 2004 г. у Гомелі выйшла кніга «Кабзар. Выбранае», у якой аб'яднаны пераклады вершаў Т. Шаўчэнкі, зробленыя Т. Мельчанка. Зборнік перакладаў «Мастак», падрыхтаваны В. Стралко таксама да 200-гадовага юбілею Т. Шаўчэнкі, які змяшчае прозу, паэзію, навуковыя артыкулы, упрыгожаны нізкай арыгінальных вершаваных пераствараненняў «З Кабзара».

У працэсе натуральнай літаратурна-мастацкай эвалюцыі з'яўляюцца ўсё новыя пераклады, але не страчваюць актуальнасці і класічныя варыянты. Адметны мастацкі густ Т. Кабржыцкай, прафесіяналізм тэарэтыка літаратуры і перакладазнаўцы В. Рагойшы паспрыялі таму, што пад адной вокладкай сабраны самыя лепшыя, узорныя з вядомых на сённяшні час варыянтаў перакладаў літаральна ўсіх вершаў, паэм, балад Тараса Шаўчэнкі, у тым ліку тыя, што не друкаваліся раней («За що ми любимо Богдана?..», у перакладзе В. Рагойшы).

Канцэпцыя зборніка, арыгінальная і прадуманая, увасоблена ў яго назве і адпавядае задуме ўкладальнікаў — падаць спадчыну Т. Шаўчэнкі як пасланне ў XXI стагоддзе. Падабраныя ў фаліянце матэрыялы арыентуюць чытачоў на пранікнёны дыялог з творчым геніем Кабзара. Каштоўнасны змест паслання ў вяршынным моманце творчага азарэння ахоплівае шырокі спектр актуальных пытанняў і разважанняў пра мінулае, сучаснасць і будучыню. На думку аўтараў прадмовы, «у пасланні ў адзін філасофскі вузел зніташаны праблемы сацыяльна-палітычныя, маральна-этычныя, культурна-духоўныя, нацыянальныя». У адпаведнасці з найноўшымі даследчыцкімі стратэгіямі вылучаны асноўныя ідэйна-тэматычныя кірункі паэзіі Т. Шаўчэнкі, дэталёва прааналізаваны такія праспектныя, канцэптуальна вызначальныя яго творы, як «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…», «Сон», «Каўказ», «Ерэтык». Зварот да спадчыны Кабзара прадстаўлены даследчыкамі як увогуле жыццёва важная і надзённая справа, а не толькі ў сувязі з юбілейнай датай. Сёння як ніколі актуальна гучаць найгалоўнейшыя ў канцэпцыі Шаўчэнкі-мысляра «ідэі ўкраінскай нацыятворчасці, кансалідацыі ўсяго ўкраінскага народа ў рэчышчы еўрапейскай культуры, прагрэсу і дэмакратыі». У прадмове звернута ўвага і на тое, што глыбокі роздум Кабзара над лёсам радзімы спалучаны з глабальным бачаннем ім перспектыў развіцця славянства. Так, у сённяшнім кантэксце асаблівую запатрабаванасць набывае агучаны ў паэме «Ерэтык» заклік да аб'яднання славян на шырокіх дэмакратычных падставах:

*Слава тобі, Шафарику,*
*Вовіки і віки!*
*Що звів єси в одно море*
*Слав'янскії ріки!*

Такім чынам, кніга мае не толькі філалагічны, але і сацыяльна-грамадскі рэзананс. Прадмова таксама змяшчае факты жыццяпісу Т. Шаўчэнкі, дае разгорнутае і падрабязнае ўяўленне пра сувязі Кабзара з Беларуссю, асаблівасці рэцэпцыі яго творчасці ў нашай краіне.

Лагічнымі і прадуманымі з'яўляюцца структура кнігі і прынцып падачы мастацкага матэрыялу, згодна з якім у пачатак асобна вынесены праграмныя творы, размежаваны лірыка і ліра-эпас.

У структуру кнігі арганічна ўпісваецца дбайна сабраны даследчыкамі ілюстрацыйны матэрыял, што дэманструе знакавыя моманты рэцэптыўнага поля сувязей Тараса Шаўчэнкі з Беларуссю. Гэта і аўтограф верша «У Вільні, городі преславнім», і выява Мінскай ратушы, міма якой праходзіў Шаўчэнка (1829), вокладкі асобных беларускіх выданняў твораў Т. Шаўчэнкі, момант рэдагавання Якубам Коласам і Янкам Купалам «Кабзара», выявы помнікаў Т. Шаўчэнку ў беларускіх гарадах ды іншае.

Звяртаюць на сябе ўвагу абноўленыя каментарыі, выверaныя з самымі апошнімі крыніцамі — літаратурнай серыяй Поўнага збору твораў Т. Шаўчэнкі ў 12 тт. (тт. 1— 6, 2001—2003 гг., выдадзены Інстытутам літаратуры імя Т. Шаўчэнкі НАН Украіны). Як адметная і вельмі зручная для карыстальнікаў рыса выдання вылучаецца дапаможны ўказальнік твораў Т. Шаўчэнкі, пададзены ў суадносным алфавітным парадку на ўкраінскай і беларускай мовах.

Мабільнасць выдання, сарыентаванасць на густ і патрабаванні спакушанага прагай да ведаў і пры гэтым звыклага да камфорту сучаснага чытача робяць яго прэзентабельнай, унікальнай з'явай еўрапейскага кніжнага рынку. «Кабзарам» у сучасным фармаце натуральна хочацца ўзбагаціць хатнюю бібліятэку, але галоўная вартасць такіх зваротаў да класікі ў тым, што яны вымушаюць задумацца, стымулююць новыя мастацка-інтэлектуальныя, даследчыя пошукі. Укладальнікамі Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам прадэманстравана паўнавартаснае самастойнае жыццё ідэй і вобразаў Тараса Шаўчэнкі ў беларускай духоўна-мастацкай прасторы, дыялог якога з нашчадкамі з XXI ст. пашыраецца да ўзроўню зацікаўленага і плённага ўзаемадзеяння нацыянальна-культурных менталітэтаў, быційнага досведу беларусаў і ўкраінцаў.

**Жанна ШАЛАДОНАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, кандыдат філалагічных навук**

## Міхайла ШАЛАТА
## Жнівень

*Складу, калоссем сціснуты,*
*Асану жніўную-месяцу…*
*Бягучь жыты да выгану.*
*Прагоны бліскацяць.*

*Руладамі — цыкадамі*
*Уся зямля напоўнена.*
*У тры паверхі — водары.*
*(Ухмельны нівы лан!)*

*А полудзень аж пражыцца, —*
*Палетку быць зярністаму…*
*Складаю мольбы небу я*
*З набожнасці жыцця.*

***

*Свеціць квецень уначы*
*Апраменнем алычы.*
*Каля саду вунь і хата*
*З мільгаценнем на плячы.*

*На падходзе заранiца?*
*Зорка, што не йдзе наўзбоч.*
*Не дзянніца — чараўніца*
*Будзе лашчыцца ўсю ноч.*

***

*Прыехаў Міхайла на белым кані*
*(Так мовяць, як выпадзе снег на Міхайла.)*
*Намелена шчодра: з нябеснай гайні*
*Заслана зямелька святочна, ахайна.*

*Мой дзед быў Міхайла. Пусціў карані!*
*І я запрашаю радзіну ў гасціну.*
*Прыехаў Міхайла на белым кані.*
*Святкуем.*
*І думаем…*
*пра Украіну.*

***

*Не грымоты за Сулою,*
*Не ўскапыціліся коні, —*
*Тут вясна бубніць вясною,*
*Рэкі плешчуцца ў далоні.*

*А мае паўстанцы-думкі —*
*За Вясну-Дзяржаву ўзвівы.*
*У Пуціўлі чуцен гулкі*
*Яраслаўны плач тужлівы.*

***

*Час адлёту буслоў і цвіцення вяргінь.*
*Насцярожна наўкруг і чаканне чагосьць.*
*З неба знік крэпдэшын: не курчавіцца сінь.*
*І маркоцяцца кроны, бо восень вось-вось.*

*Не стракоча і конік, бо луг без травы.*
*У мінoры прастор халадзіначкі дзеліць.*
*Ты не чахні, душа: покуль розум жывы,*
*Мы паклікаaны свет абнадзеіць!*

**Пераклад з украінскай мовы Сяргея ПАНІЗНІКА**


*Фота з сайта hal_zoria.io.ua*

# Крепость святой Александры

Книга «**Мемуары последней Императрицы. Александра Фёдоровна Романова**» — это исповедь мудрой женщины с чутким сердцем. Чопорной и своенравной называли ее современники, а она всегда верила, что «за тучей скрывается звёздный свет», видела в людях лучшее, мужественно выносила испытания, посланные судьбой. «Христианство, как небесная любовь, возвышает душу человека», — говорила Императрица, будучи уверенной, что Бог всегда прав, наказывает он или дарует счастье.

В сборнике воспоминаний, откровений и писем, вышедшем в издательстве «АСТ» при участии издательства «Белорусский Дом печати», нет надушенного светского жеманства, феерических описаний балов и хитроумных дамских сплетен. Вместо этого — одухотворённые, добрые, благородные мысли жены и матери, которые и спустя столетие звучат актуально и мудро. Почему Александра Фёдоровна сравнивала каждое сердце с маленьким садом, а человеческие жизни — с недостроенными кирпичными зданиями?

Как она советовала относиться к врагам, чтобы они не сумели принести вред? Что наказывала делать женам и мужьям для сохранения семьи, домашнего тепла и остроты чувств? Чем измеряла силу истинной любви? Об этом и не только можно узнать из книги.

Александра Фёдоровна верила в Бога больше, чем в саму себя, находила в нём спасение. Каждую строчку мемуаров пронизывает глубокая религиозность, христианская мораль. Причём порой так сильно, что кажется,




будто читаешь Библию или стоишь в храме с молитвенником в руках.

«Если вы стремитесь стать лучше, так и будет. Только верьте своим лучшим чувствам, не старайтесь заглушить в себе эту жажду святого, боритесь, несмотря на ошибки, промахи, даже прегрешения», — восклицала Императрица. Она не любила тратить время на сожаления о своём характере, временами вспыльчивом и раздражительном, а просто приносила окружающим добро: жертвовала почти все свои деньги на благотворительность, строила госпитали и лечила раненых солдат. «Делайте что-то нужное в каждый момент своей жизни», — вот девиз её бытия.

Восхищение вызывают размышления Александры Фёдоровны о супружеской жизни, которая должна строиться на абсолютном доверии и уважении. Она советовала удерживаться от ссор, не ложиться спать, затаив в душе гнев и обиду, просить прощения за необдуманные слова немедленно. Ошибки рождают в сердцах супругов маленькие «трещинки», которые постепенно, с каждым годом, превращаются в дыру непонимания и отчуждения.

«Не спеши замуж, а то бытовая рутина засосёт», — слышали такое? Многие считают, что брак — это тюремные кандалы и солдатская похлёбка из скандалов и обид. На самом деле не быт, а люди всё портят, ведут себя неправильно, забывают, что семья — это уже не отдельные «я», а единое целое, самопожертвование, бескорыстие. «Смысл брака в том, чтобы приносить радость. Истинно любящие всегда готовы и уступить, и извиниться. Муж и жена должны отдавать друг другу всё лучшее в себе», — утверждала Александра Фёдоровна. Как же научиться быть внимательным и терпеливым, уступать и прощать? Легко! Понимаешь это, вдумываясь в смысл написанных Императрицей строк: «В каждом доме бывают свои испытания, но в истинном доме царит мир, который не нарушить земным бурям. Дом — это место тепла и нежности. Говорить в доме надо с любовью».

Дети были для неё самым святым. Она до последнего, жертвуя всем, боролась за их счастливое детство, а из-за болезни маленького сына Алексея и вовсе слегла. Но от тревог и переживаний слабее стала физически, а не духовно.

Портрет женщины в устах Александры Фёдоровны — это не красивая картинка или эфемерное создание, а здоровая, сильная, практичная, трудолюбивая жена. Современные барышни часто избегают домашних хлопот и обязанностей, стирок и уборок, а потом разводятся и приходят к тому, что рожать в сорок лет уже поздно. Старомодно? Судите сами.

«Лучшая часть красоты та, которую внешне выразить невозможно», — совет, который, скорее всего, некоторые истолкуют как «женщина может ходить лохматая, с немытой головой, в рваном халате, главное чтоб добрая была». А вот и неверно! Императрица имела в виду совсем другое. Женщина должна быть прекрасной и ухоженной, но не для всех подряд, а для мужа или возлюбленного, человека, которому посвятила душу и тело.

Счастье жизни складывалось для Александры Фёдоровны из отдельных минут, мимолетных удовольствий от улыбок близких, их гостинцев и визитов, комплиментов и поцелуев мужа, новых книг. Тихие семейные вечера были для Императрицы важнее развлечений, может быть, поэтому светское общество отвергало её. А вы не боитесь мнения толпы? Если нет, то мемуары Александры Федоровны послужат первым шагом к новым открытиям в своей душе.

Издание дополнено лаконичными, временами по-мужски скупыми, а иногда очень даже тёплыми выдержками из дневников мужа Александры Федоровны, последнего русского Императора Николая II. Записи были начаты им в Виндзоре в 1894 году, далеко от дома, и закончены в мае 1918-го, ставшего последним годом жизни для его семьи.

Последний штрих к портрету Императрицы — письма фрейлине и ближайшей подруге Анне Вырубовой, которые завершают книгу. Многие из них были написаны после Февральской революции 1917-го, в высылке, в Тобольске, когда Романовы уже находились под домашним арестом. Читаются послания как крик души, трогательно, до слёз.

Александра Фёдоровна мало пишет о себе, почти не жалуется, хотя, как видно между строк, чувствует себя больной, уставшей и очень тревожится за родных. Она часто справляется о здоровье фрейлины, всё время благодарит её — за духи, вкусную пастилу и другие сладости для детишек, тёплую кофточку для сна в холодном доме. Не забывает также поддерживать и благословлять подругу: «Любимая душа, мученица моя маленькая! Да согреет Отец Небесный твою скорбную душу, да осветит тебя небесным светом, покрывая все вои раны любовью и радостью. Не страдай, дружок! Души наши всегда вместе, и через страдание мы понимаем друг друга еще больше».

«Родная моя! Горячо благодарим за всё… Маленький — за шоколад, птичку, чудный образ — стоял во время службы на столе. Спасибо маме за стихи, ноты, книжку… Снег шёл опять, но яркое солнце... Ночь, наконец, была спокойней... Атмосфера вокруг электрическая, чувствуется гроза...», — так трогательно в апреле 1918-го обрывается переписка. Всё можно отнять у человека, кроме его души. Книги, подобные этой, действуют как эффект пробуждения после холодного душа: позволяют «встрепенуться», пересмотреть свою жизнь и начать действовать.

**Мария ВОЙТИК**

# Материнская азбука




Семья и карьера, домашние хлопоты и уход за собой, воспитание ребёнка и продвижение по работе — это не статья из словаря антонимов, а вполне совместимые вещи. Книга **«От 0 до 2. Лайф-менеджмент для молодой мамы»**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», позволит в этом убедиться.

Автор, Наталья Иоффе, — удивительно позитивная, энергичная, разносторонняя женщина. Судите сами: работает копирайтером, воспитывает маленького сына, заботится о муже и доме, ведёт два блога, помогая людям добиваться успеха, правильно распределяя своё время.

Книга посвящена молодым мамам и тем, кто собирается завести детей в ближайшем будущем. Во многом она автобиографична, основывается на опыте автора. Декретный отпуск, по мнению Натальи Иоффе, — это время не для депрессии, хандры и ничегонеделания, а активные поиски самой себя, возможность подумать и разобраться в жизни, правильно расставив приоритеты. За это время писательница уволилась с прежней работы, на что не могла решиться целых шесть лет, открыла свой бизнес, начала прилично зарабатывать, обзавелась новыми друзьями.

Холод и дистанцию в отношениях с мужем при рождении ребёнка Наталья Иоффе тоже пережила, вернув в отношения тепло, романтику, понимание и поддержку. Этому учит она и читательниц. Выделить в неделе один вечер для совместного ужина, назначать друг другу свидания, удивлять приятными сюрпризами — легко, не правда ли? Главное, чтобы супруги не сидели вечерами, уткнувшись в мониторы компьютеров. Любое разумное действие или, наоборот, абсолютно фантастический поступок — и в любви обязательно наступит оттепель.

Первые главы книги посвящены психологическим проблемам, с которыми сталкивается новоиспечённая мама, и путям их решения. У малыша режутся зубки, болит животик, он плачет, требует внимания или хочет кушать... Женщине зачастую даже некогда сделать себе бутерброд, не то что книжку почитать. Как взять себя в руки и не впасть в отчаяние? Наталья Иоффе подробно рассказывает о том, как настраиваться на положительные эмоции, ощущать свою силу и успокаиваться. Декретный отпуск, по мнению автора, не должен ограничиваться сидением в четырёх стенах. Иначе незаметно, но неумолимо в душу даже самой спокойной женщины проберётся хандра и тоска.

Не нужно бояться заводить новые знакомства, с такими же мамами или просто людьми своего круга интересов, смело менять привычный распорядок дня, например, уделять полчаса утреннего времени… танцам! Уходу за собой тоже нужно посвящать хотя бы 20 минут после сна, а также пару раз в неделю заниматься спортом. Тогда, мимолётно взглянув в зеркало, женщина не будет раздосадована, что куда-то исчезла талия или под глазами появились мешки. Наталья Иоффе не забывает и о правильном питании, приводя в своей книге несколько кулинарных советов для мам. Автор делится вариантами решения ещё одного нелёгкого вопроса: как справедливо распределить обязанности в доме между мужем и женой, чтобы женщина не «крутилась как белка в колесе» одна, в то время как её мужчина лежит на диване и смотрит футбол.

Но главный секрет Натальи Иоффе, с которым тоже можно познакомиться в книге, — это эффективное управление временем или тайм-менеджмент. По её словам, он складывается из трёх простых правил: делать то, что важно в первую очередь, не впадать в панику и не совмещать сразу несколько дел.

Вторая половина книги повествует об уходе за ребёнком: как правильно его кормить, воспитывать, какие книжки покупать, как выстраивать с ним отношения, чувствовать гармонию между строгостью и лаской. Наталья Иоффе завершает издание списком рекомендованной каждому родителю литературы, не ограничивая читателей только собственными рассказами. «От 0 до 2. Лайф-менеджмент для молодой мамы» — объективное, искреннее, живое и вдохновляющее творение.

**Мария ВОЙТИК**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Гандаль марамі

Толькі гультай яшчэ не прадракаў бязрадасны канец існавання друкаванага слова. Але мне падаецца, што кніга проста вяртаецца на ўзровень сваёй сярэднявечнай значнасці. Кніга зноў становіцца часткай жыцця абраных, а чытанне як з'ява — рафінаваным мастацтвам. Кніга сёння — вытанчаны камплімент на адрас таго, каго адорваюць.

«Ніякія самыя тонкія і самыя празрыстыя і паветраныя матэрыі, ніякія самыя каштоўныя металы не параўнаюцца па далікатнасці з гэтым нематэрыяльным таварам [кнігай], таму што тавар гэты ўвасабляе: думку, натхненне, мару», — так казаў Маўрыкій Вольф, выдатны пісьменнік і асветнік. Менавіта ў гэтым і хаваецца сутнасць, што вызначае прыроду людзей, якія працуюць з кнігай.

Адукаваны персанал адыгрывае вырашальную ролю ў любым бізнесе. Але калі гаворка пра кнігарню, то тут прадаўцы становяцца літаральна апекунамі лёсу ўстановы. Прадавец — палова поспеху кніжнага бізнесу! Заўвагі эканамічнага кшталту ў адказ на гэтыя словы зразумелыя. Ведаю гэта не са слоў калег — уяўляю становішча рэчаў знутры. Але… можна ж памарыць?

Напрыклад, у ЗША шэраг такіх кнігарняў, як BookPeople, Politics & Prose, Boulder Bookstore, не толькі ганарыцца сваімі кампетэнтнымі прадаўцамі — персанал становіцца асобным пунктам у спісе канкурэнтных пераваг. Бо толькі ад гэтых людзей будзе залежаць, ці прадасца кніга або яна толькі часова зменіць месца захоўвання са склада выдавецтва на склад крамы. Некалькі гадоў таму часопіс «Книжная индустрия» вызначаў асноўныя патрабаванні да кнігагандлёвай сеткі з боку выдаўцоў. Дык вось адукаваны персанал займаў першы радок выніковага спіса. І значнасць гэтага параметра праз год пры паўторным зборы звестак толькі ўзрасла.

Прадавец, які ведае кожную кнігу ў сваёй кнігарні і гатовы бясконца гутарыць з вамі пра рысы творчасці Марселя Пруста, які лепш за любую базу дадзеных валодае інфармацыяй пра ўсе выданні і перавыданні вашага любімага рамана… Такі прадавец наўрад ці трапіцца вам у неабсяжнай краме буйной сеткі. Мне ўспамінаецца Libreria Internazionale Luxemburg у цэнтры Турына. Тут вас сустракаюць так, нібыта чакалі ўсё жыццё. Ледзь не з першага дня існавання крамы, хоць гэта было амаль паўтара стагоддзя таму. Варта толькі абмяняцца з прадаўцом нязначнымі рэплікамі, як вось ужо праляцела гадзіна ў захапляльных гутарках, якія не сніліся ніводнаму клубу заўзятых інтэлектуалаў.

Гутаркі з такімі прадаўцамі нагадваюць сцэну з фільма «Вам ліст». Кэтлін Келлі, уладальніца маленькай лаўкі дзіцячых кніг, прыходзіць да свайго суседа-канкурэнта, які адкрыў сеткавую кнігарню. Паміж адным з прадаўцоў і наведвальніцай разгортваецца дыялог: «Ці ёсць кнігі з «Абутковай» серыі? Сяброўка раіла маёй дачцэ пачытаць іх». — «Абутковай»? А хто аўтар?». Наша гераіня не вытрымлівае і ўмешваецца ў гутарку: «Ноэль Стрытфільд… Ноэль Стрытфільд напісала «Пуанты», «Канькі», «Тэатральныя туфлі», «Танцавальны абутак»… Пачніце з «Пуантаў». Гэта мая любімая. Хоць «Канькі» — таксама выдатны твор, але яго даўно не перавыдавалі».

Ну а цяпер скажыце, хіба вы не марылі, каб усе прадаўцы ў кнігарнях былі такімі?

## Унікальны праект

# Гардэроб для воіна

Бадай, самай прыцягальнай для чытачоў гістарычнай літаратуры тэматыкай з'яўляюцца пытанні, звязаныя з вайсковай гісторыяй. Сапраўды, што можа быць больш цікавым і істотным, чым герачныя ўчынкі колішніх абаронцаў Айчыны? Кнігі, прысвечаныя апісанню ваенных кампаній, бітваў, лёсаў выбітных палкаводцаў, уніформе, узбраенню, фартыфікацыі, заўжды прыцягвають чытачоў. На жаль, айчынныя гісторыкі дагэтуль не надаюць належнай увагі пытанням вайсковай гісторыі. Магчыма, сказваецца яшчэ тая савецкая гістарыяграфічная традыцыя, паводле якой асноўнай мэтай працы гісторыка з'яўляецца вывучэнне гаспадаркі і класавых адносін.



*Гусар Рэчы Паспалітай, XVII ст. Малюнак Віктара Ляхара.*

Зрэшты, кніг па беларускай вайсковай гісторыі апошнім часам стала прыкметна больш, запачаткавана нават некалькі адпаведных выдавецкіх серый («Беларусь у войнах», «Славутыя бітвы»). Выдатным прыкладам паляпшэння сітуацыі ў галіне вайскова-гістарычнай літаратуры стала кніга Віктара Ляхара «Ваенная сімволіка беларусаў. Знамёны і мундзіры», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Харвест». Яе аўтар, дарэчы, прафесійны вайсковец, з'яўляецца вядомым спецыялістам у галіне ўніфармістыкі, эмблематыкі і графічнай рэканструкцыі вайсковага строю і рыштунку. Акрамя таго, В. Ляхар — сябра Геральдычнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і дзвюх творчых суполак — Беларускага саюза журналістаў і Міжнароднага саюза дызайнераў. І, напэўна, самае галоўнае — ён выдатны мастак, шырока вядомы сваімі ілюстрацыямі на вайскова-гістарычную тэматыку. Апошні факт прадвызначыў тое, што кніга атрымалася надзвычай багата ілюстраванай.



*Гусар Беларускай вайсковай камісіі, Мінск, 1919 год. Малюнак Віктара Ляхара.*

На ілюстрацыях варта спыніцца асобна, бо яны займаюць больш як палову аб'ёму выдання. Асаблівай увагі заслугоўваюць аўтарскія графічныя рэканструкцыі ўніформы, гербаў, элементаў рыштунку, вайсковай эмблематыкі. Гэтыя рэканструкцыі — плён доўгай і карпатлівай даследчыцкай працы па вывучэнні строю, матэрыяльнай культуры, узбраення і вайсковай справы розных эпох і народаў — не толькі жыхароў Беларусі, але і колішніх ворагаў. Акрамя таго, тэкст суправаджаецца шматлікімі фотаздымкамі, карцінамі, малюнкамі і дакументамі розных часоў. Гэта робіць кнігу вельмі прывабнай для чытача. Па шчырасці, нават добра абазнанаму ў вайсковай гісторыі чалавеку няпроста адарвацца ад перагортвання старонак.

Тэкст кнігі В. Ляхара заслугоўвае пільнага вывучэння. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што аўтар правёў велізарную працу па даследаванні гісторыі беларускай вайсковай формы, рыштунку і эмблематыкі. Фактычна, праца «Ваенная сімволіка беларусаў. Сцягі і мундзіры» з'яўляецца першым амаль энцыклапедычным выданнем, якое дае чытачу грунтоўнае ўяўленне пра асноўныя кірункі і асаблівасці развіцця ўніформы і знакаў адрозненняў войскаў розных дзяржаўных утварэнняў, якія ў розныя часы існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Кніга падзеленая на дзве асноўныя часткі. Першая прысвечана гісторыі беларускіх вайсковых сцягоў. Аўтар спрабуе выявіць вытокі традыцыі выкарыстання сцягоў у раннедзяржаўны час і падрабязна разглядае ўсе этапы фарміравання айчыннай вексілалогіі. Шмат якія выявы сцягоў, прыведзеныя ў кнізе, з'яўляюцца аўтарскімі рэканструкцыямі. Асабліва гэта тычыцца сцягоў познесярэднявечнага перыяду і Новага часу.

Другі раздзел прысвечаны гісторыі вайсковай формы і эмблематыкі ад моманту зараджэння да сучаснасці. Варта адзначыць, што нават чалавек, які добра ведае гісторыю Беларусі, зможа знайсці новае, а часам і нечаканае. Малавядомыя факты змяшчаюцца ў частцы раздзела, прысвечанай перыяду рэвалюцый у Расійскай імперыі, фарміравання на яе аскепках новых







*Рыцар Вялікага Княства Літоўскага XVст. Малюнак Віктара Ляхара.*

нацыянальных дзяржаў, грамадзянскай вайне і савецка-польскай вайне. Так, мала хто чуў пра існаванне нацыянальных беларускіх падраздзяленняў у войсках аднаўленай Польскай дзяржавы, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Надзвычай інфарматыўным і цікавым з'яўляецца тэкст, прысвечаны спробам стварэння нацыянальных беларускіх вайсковых злучэнняў, якія прадпрымаліся кіраўніцтвам Беларускай Народнай Рэспублікі. Бадай, толькі нешматлікім вузкім спецыялістам вядома аб праекце стварэння ў Савецкім Саюзе Беларускай асобнай арміі з уласнымі сцягамі і эмблемамі ў 1944 годзе напярэдадні аперацыі «Баграціён». І падобных фактаў у кнізе вельмі шмат.

Аднак галоўным плюсам кнігі В. Ляхара з'яўляецца сам падыход да распаведу пра гісторыю ўніформы і эмблематыкі беларускага войска. Ён акрэслены самім аўтарам: «Хочацца спадзявацца, што кніга паслужыць справе кансалідацыі нашага грамадства праз разуменне сутнасці сімвалаў і эмблем як маўклівых сведкаў мінулага. Маючы асаблівы сэнс у кожным канкрэтным кантэксце, сімвалы з'яўляюцца не зброяй, а ключамі да разумення мінулага. Некалі ўцягнутыя ў смяротнае ідэалагічнае змаганне, зараз яны мірна суіснуюць у паўсядзённым жыцці беларусаў. "Дзваляць" ці «забараняць» іх бессэнсоўна — яны вечныя». Сапраўды, у кнізе аднолькава падрабязна і дэталёва апісваецца ўніформа беларускіх палкоў у войсках Расійскай імперыі і напалеонаўскай Францыі, вайсковых аддзелаў Беларускай Народнай Рэспублікі і Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, міжваеннага польскага войска, падраздзяленняў Саюза беларускай моладзі і Беларускай краёвай абароны ды інш. Гэта дазволіла аўтару стварыць цэласную, пазбаўленую палітычнай афарбоўкі і спекуляцый карціну гісторыі ўніформы і эмблематыкі беларускага войска.

Натуральна, да факталагічнага зместу кнігі В. Ляхара можа быць зроблены цэлы шэраг заўваг, бо сама праца па рэканструкцыі ўніформы мінулых эпох прадугледжвае варыятыўнасць у падыходах і атрыманых выніках. Аднак гэтыя дыскусіі можна пакінуць спецыялістам, бо для шараговага аматара гісторыі яны не могуць насіць прынцыповага характару. Фактычна адзіная сур'ёзная заўвага да тэксту — шматразовае выкарыстанне тэрміна «Белоруссия» замест афіцыйнай назвы нашай Радзімы — Беларусь. Гэта выглядае зусім недарэчна і прымушае чытача кожны раз «спатыкацца», натрапіўшы на гэтае слова ў тэксце.

Разам з тым кніга В. Ляхара пакідае станоўчае ўражанне. Можна ўпэўнена меркаваць, што гэтая энцыклапедыя гісторыі беларускага вайсковага строю атрымае прызнанне ў чытачоў і вытрымае яшчэ не адно перавыданне. Застаецца спадзявацца, што ў будучых выданнях назва краіны, вывучэнню і папулярызацыі мінулага якой Віктар Ляхар прысвяціў сваю працу, будзе напісана правільна.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**



# Лірычнае падарожжа

**Выстаўка графічных работ Валянціна Васільева «Пушкінагор'е» адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. У экспазіцыі прадстаўлены гравюры на пластыку, выкананыя ў 70-я—80-я гады мінулага стагоддзя.**

Валянцін Васільеў быў прыкметнай постаццю ў асяроддзі мастакоў Пскоўшчыны. Выбітны графік, жывапісец, заснавальнік і дырэктар Пскоўскай дзіцячай мастацкай школы, ён зрабіў вялікі ўнёсак у культурнае жыццё роднага горада. У ліку яго выхаванцаў — многія таленавітыя мастакі. Сёння Валянціна Міхайлавіча з цяплом успамінаюць вучні, калегі і землякі.

Асноўная тэма творчасці майстра — Пскоў, а таксама Пушкінскія мясціны, якім мастак прысвяціў некалькі серый графічных работ. Аўтарству Валянціна Васільева належыць мноства лінагравюр, ксілаграфій, гравюр на пластыку, афортаў… Работы майстра пабывалі на многіх выстаўках, служылі ілюстрацыямі да літаратурных твораў.

Экспазіцыя запрашае здзейсніць незабыўнае падарожжа на паэтычную радзіму Аляксандра Пушкіна. На гравюрах — пейзажы Міхайлаўскага, Трыгорскага, Пятроўскага… Прыгажосцю гэтых жывапісных мясцін калісьці захапляўся вялікі паэт. Наведвальнікі змогуць убачыць радзіму класіка вачыма мастака, «прайсціся» па скверах, лугавінах і парках Пушкінскага запаведніка, адчуць яго адметную атмасферу. Работы прасякнутыя лёгкім сумам, адчуваннем тугі па мінулым, глыбокім лірызмам. Міжволі прыгадваюцца радкі вершаў паэта. Дарэчы, панцкое «чорна-белыя» нават неяк складана суаднесці з гравюрамі Валянціна Васільева. За агульнай серабрыстай гамай паўстаюць блакітныя нябёсы і азёры, зялёныя травы, каляровыя краскі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Слова на Хэлоўін

**Месцам магічна-містычнай дзеі сталася днямі чытальная зала бібліятэкі філалагічнага факультэта БДУ: тут прайшло чарговае пасяджэнне Клуба аматараў фантастыкі, гэтым разам прымеркаванае да святкавання Хэлоўіна.**

Прэзідэнт клуба, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Маргарыта Латышкевіч распавяла прысутным пра традыцыі святкавання Дня памерлых у розных краінах свету, у тым ліку і пра беларускія Дзяды. Загадчык чытальнай залы Жанна Карповіч прадставіла кніжны стэнд з літаратурай пра даўні абрад ушанавання продкаў. Акрамя тэматычных публікацый, у міні-выстаўку ўвайшла і кніга Васіля Ліцвінкі «Святы і абрады беларусаў».

Гасцей чакала шмат сюрпрызаў. Адбыўся паказ кароткаметражнага фільма рэжысёра Ціма Бёртана «Вінсэнт» пра 7-гадовага хлопчыка Вінсэнта Малоя, які збег ад паўсядзённасці ў свет змрочных фантазій і там убачыў сябе падобным да свайго куміра — акцёра Вінсэнта Прайса. Уяўляючы сябе злосным навукоўцам-геніем, у фантазіях ён становіцца ўладальнікам жудаснага музея васковых фігур, гаспадаром сабакі-зомбі, мужам пахаванай жыўцом жанчыны... У фінале Вінсэнту здаецца, што ён гіне ў жудаснай вежы. Паміраючы, хлопчык цытуе заключныя радкі паэмы Эдгара По «Воран».

А яшчэ тут праходзілі віктарыны па беларускай міфалогіі і па творчасці «бацькі» айчыннай фантастыкі Яна Баршчэўскага, конкурс на лепшы «хэлоўінскі» касцюм і на лепшую страшную гісторыю па зададзеных ключавых словах… У двух апошніх спаборніцтвах перамагла студэнтка 3-га курса беларускага аддзялення філфака Марына Шэвель, якая, дарэчы, адказвала і за бодзі-арт удзельнікаў свята.




Фота Жанны Карповіч

*Маргарыта Латышкевіч у вобразе.*

Рамантычны настрой імпрэзе надалі вершы Маргарыты Латышкевіч, а таксама песні барда Ганны Чумаковай ды лірыка маладой пісьменніцы Яны Явіч. Акрамя таго, кожны з удзельнікаў атрымаў салодкі падарунак. Так што галоўная «формула» Хэлоўіна — «Trick or Treat» — спрацавала на ўсе сто працэнтаў!

**Дана ХОДНІЧ**

# У Тонежы храм аднаўляецца

9 лістапада ў сталічнай канцэртнай зале «Верхні горад» ладзіцца дабрачынная акцыя, ініцыятарам якой стаў Беларускі саюз музычных дзеячаў і асабіста яго старшыня — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі «За духоўнае адраджэнне» Міхась Дрынеўскі.

У канцэрце духоўнай музыкі з удзелам прыходскіх і свецкіх спеўных калектываў выступяць Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. І. Цітовіча, студэнцкі хор Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (кіраўнік Інеса Бадзяка), мужчынскі Усіхсвяцкі хор (рэгент Дзмітрый Такмакоў) ды хор храма абраза Божай Маці «Усецарыца» (рэгент Дар'я Светчанкова). Вядучая праграмы — Іна Зубрыч.

Грошы, сабраныя ад продажу канцэртных білетаў, саюз музычных дзеячаў накіруе на аднаўленне праваслаўнага Храма свяціцеля Міколы Цудатворцы ў вёсцы Тонеж Лельчыцкага раёна. У храма трагічная гісторыя: зімою 1943 года, напярэдадні Раства Хрыстова, фашысцкія карнікі спалілі тонежскую царкву разам з усімі жыхарамі вёскі. У агні загінуў 261 чалавек, у тым ліку 108 дзяцей. Сёння, дзякуючы ахвяраванням жыхароў Тонежа і суседніх вёсак, царква адбудаваная больш чым напалову. Людзі, якія падтрымаюць дабрачынную акцыю музыкантаў і прыйдуць на канцэрт, зробяць важкі ўнёсак: іх дапамога паскорыць аднаўленне храма-помніка.

За ініцыятыву па арганізацыі дабрачыннага канцэрта духоўнай музыкі Міхасю Дрынеўскаму падзякаваў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Павел, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# Венесуэльская гісторыя

Сёння ў Белай зале Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі адбудзецца канцэрт вядомага венесуэльскага піяніста Альфрэда Авальеса.

Авальес пачаў займацца музыкай у пяць гадоў. У 2006-м, пасля навучання ў прафесара Карласа Урбанехі ў Нацыянальнай кансерваторыі музыкі імя Хуана Хасэ Ландаэце, яму прысвоілі кваліфікацыю выкладчыка кансерваторыі. У 2011 годзе Альфрэда атрымаў ступень магістра музыкі ў двух галінах па класе фартэпіяна: саліст і канцэртмайстар — у Бейларскім універсітэце штата Тэхас (ЗША). Вучыўся ў магістратуры Венскага ўніверсітэта сцэнічнага мастацтва і музыкі (Аўстрыя). У 2013-м стаў стыпендыятам фонду «Fundacion Cisneros» (венесуэльскі фонд падтрымкі адукацыі) з магчымасцю ўдзельнічаць у Музычным фестывалі ў Аспене (Каларада, ЗША).

Альфрэда Авальес адзначаны першай прэміяй на VIII Міжнародным конкурсе імя Франца Шуберта ў Балгарыі, другой прэміяй — на IV Міжнародным конкурсе «Марыя Клара Кулель» у Сан Хасэ (Коста-Рыка) і ў XIV Міжнародным музычным конкурсе ў г. Осака. Знакаміты венесуэльскі піяніст выступаў з Гарадскім сімфанічным аркестрам Каракаса пад кіраўніцтвам маэстра Радольфа Саглімбені, Нацыянальным філарманічным аркестрам Венесуэлы з маэстра Пабла Кастэльянасам, філарманічным аркестрам Русе (Балгарыя) і Балтыйскім філарманічным аркестрам імя Фрэдэрыка Шапэна Гданьска (Польшча).

Беларускім аматарам класічнай музыкі Альфрэда Авальес падрыхтаваў канцэрт, у рэпертуар якога ўвайшлі чатыры мазуркі Фрэдэрыка Шапэна і Караля Шыманоўскага, а таксама «Трапічная трылогія» Федэрыка Руіса, «Пацалунак немаўляці Ісуса» Аліўе Месіяна, Саната для фартэпіяна ля мінор Франца Шуберта, сімфанічныя танцы з мюзікла «Вестсайдская гісторыя» Леанарда Бернстайна.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Вязынка Вядрэнкі

Новы фотапраект Валерыя Вядрэнкі «Святло Вязынкі» невыпадкова прадстаўлены менавіта ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы: гэтая вёска — радзіма песняра.

Валерый Вядрэнка — рэжысёр кінафотастудыі, у 1990-я гг. актыўна займаўся жывапісам, а ў век лічбавых тэхналогій вярнуўся да мастацкай фатаграфіі. Работы лаўрэата міжнародных конкурсаў прадстаўлены на шматлікіх фотавыстаўках, захоўваюцца ў музейных, у прыватных зборах Расіі, Чэхіі, Польшчы. Матэрыялы для «вязынкаўскай» экспазіцыі збіраліся цягам 30 фотасесій.

Валерый Вядрэнка пабачыў Вязынку па-новаму, здолеўшы зафіксаваць праявы зменлівай прыроды і ў той самы час захоўваючы каларыстычную дакументальнасць краявідаў. Фотамастак запрашае ў сакральны свет Купалавых мясцін без усялякіх спецэфектаў сучасных тэхналогій. Свае слова пра творцу сказалі дырэктар Купалаўскага музея Алена Ляшковіч, мастацтвазнаўца Таццяна Бембель ды іншыя госці.

«Святло Вязынкі» — толькі першая частка (з мяркуемых чатырох) сумеснага праекта В. Вядрэнкі і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Якімі атрымаюцца наступныя, цікава нават самому аўтару!

**Яна ЯВІЧ**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Традыцыі вяртаюцца!

Фота Алены Беланожка



**Міжнародны форум «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства», які аб'яднаў тэарэтыкаў і практыкаў Беларусі, Расіі, Літвы, Францыі, Арменіі, Азербайджана, Румыніі, прайшоў у Магілёве. Гэта ўжо трэцяя сустрэча, падчас якой этнографы, навуковыя дзеячы, мастацтвазнаўцы абмяркавалі пытанні захавання традыцыйнай культуры, абмяняліся досведам, ідэямі.**

На гэты раз форум праходзіў у межах святкавання 75-годдзя Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы, зазначыў яго дырэктар Алег Хмяльковў.

Традыцыйная культура — багацце кожнай краіны. Яна ўнікальная і можа стаць сапраўдным брэндам. Народныя рамёствы, фальклор, абрады адрозніваюць адну дзяржаву ад другой. Захаваць гэтую спадчыну вельмі важна, бо свет становіцца ўсё больш імклівым, глабальным. «Традыцыйную культуру трэба папулярызаваць сучаснымі метадамі і не баяцца, што з-за гэтага згубіцца сакральнасць», — зазначыў Саўлюс Ліаўса, дырэктар цэнтра народнай культуры Літвы. Сучасны падыход, напрыклад, выкарыстоўвалі арганізатары Дня нацыяльнага касцюма, які нядаўна святкаваўся ў Літве. Традыцыйныя касцюмы дэманстравалі выканаўцы сучасных танцаў, а дызайнеры распрацавалі цэлую калекцыю моднага адзення і аксесуараў з нацыянальнымі арнаментамі. Дапамаглі і камп'ютарныя тэхналогіі: дзякуючы вялікаму экрану і спецыяльнай праграме кожны мог «прымераць» нацыянальны касцюм.

Удзельнікі форуму адзначылі багацце і непаўторнасць беларускай культуры. Не засталося незаўважаным і тое, што беларускія фальклорныя калектывы, якія выступілі падчас форуму, складаюцца не толькі з людзей сталага ўзросту, але і з моладзі. Народнае мастацтва ў Беларусі зноў набывае папулярнасць. Пра гэта сведчыць і маштаб свята.

Падчас форуму разгарнулася выстаўка-кірмаш. Народныя майстры з розных куткоў Магілёўшчыны прывезлі ўнікальныя вырабы з дрэва, гліны, саломкі, лёну і воўны. Творцы захавалі адметнасці мясцовых народных традыцый, якія назапашваліся. Перад гасцямі адбываліся сапраўдныя цуды: аўтары паказвалі майстар-класы па саломапляценні, вышыўцы, разьбярстве. Экспазіцыю дапоўнілі лепшыя работы па ткацтве Магілёўскай вобласці, а таксама рэканструкцыі беларускіх народных касцюмаў.

Завяршылася свята музыкай: у канцэртнай зале «Магілёў» адбылася імпрэза «Народная творчасць — крыніца натхнення». Лепшыя творчыя калектывы краіны спявалі, танчылі, жартавалі, гралі на музычных інструментах, прадстаўлялі тэатральныя замалёўкі і частавалі шаноўных гасцей сакавітымі пакроўскімі яблыкамі. Падчас канцэрта адбылася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання дзеячаў культуры Магілёўшчыны.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Зорка на небасхіле культуры

Калі вы чуеце назву «Мілавіца», што першае прыходзіць на думку? Хутчэй за ўсё, шыракавядомы брэнд беларускай вытворчасці па пашыве бялізны. А, між іншым, так у старажытнасці беларусы называлі Венеру, якая запальваецца на вячэрнім небасхіле.

Людзі часам забываюць свае карані, выбіраючы сучаснасць. Няма калі спыніцца, заўважыць прыгажосць прыроды, пабыць сам-насам з уласнымі думкамі. Няма калі пачытаць дзіцяці казку... А потым здзіўляемся: чаму дзеці ўсё менш і менш чытаюць, чаму выкарыстоўваюць незразумелы слэнг?

У вуснай народнай творчасці кожнай вобласці, кожнага раёна Беларусі свая адметнасць: свае песні, казкі, прымаўкі.

На маю думку, вельмі важна з маленства далучаць кожнае дзіця да моўнай скарбніцы нашых продкаў, каб яно адчувала еднасць са сваім народам і Бацькаўшчынай.

Мне пашанцавала сустрэць сапраўды зацікаўленых людзей, якія ўсведамляюць каштоўнасць беларускага аўтэнтычнага фальклору. Гэта кіраўнік фальклорнага калектыву «Мілавіца», што працуе ў цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ветразь» Кастрычніцкага раёна г. Мінска Марыя Снітко, этнахарэограф гэтага калектыву Мікалай Козенка, якія шукаюць, адаптуюць і развучваюць з дзецьмі лепшыя ўзоры народных песень, гульняў, жартаў, забаўлянак, прыпевак і танцаў з розных раёнаў Беларусі, стараючыся захаваць усе мясцовыя асаблівасці вымаўлення і гучання, адметнасці рухаў танцаў і карагодаў, якія заўсёды суправаджаюцца толькі жывой музыкай. На баяне віртуозна грае нязменны акампаніятар калектыву Аляксандр Булойчык, а некаторыя песні на гармоніку і дудачцы выконваюць юныя ўдзельнікі калектыву, з якімі дадаткова займаецца Аксана Ровенская.

Мая дачка прыйшла ў «Мілавіцу», калі ёй было пяць гадоў. З самага пачатку яна з задавальненнем развучвала забаўлянкі, прыпеўкі і скорагаворкі. Родная мова ажывала для дзяўчынкі, станавілася часткай жыцця. У свае дванаццаць яна ведае і выконвае шмат аўтэнтычных народных песень каляндарнай, сямейна-абрадавай, лірычнай народнай паэзіі. У калектыве займаюцца групы рознага ўзросту: маленькія «Зярняткі», сярэднія «Парасткі», старэйшыя «Журавінкі», а таксама ўнікальная група для бацькоў ад 18 да 80 — сямейны клуб «Стрэчанне». Нягледзячы на тое, што заняткі праводзяцца па групах (методыка работы залежыць ад узросту ўдзельнікаў), на канцэртах і святах усе спяваюць разам — зусім як у даўнія часы, калі на вячорках збіраліся і старыя, і малыя. Усіх тут рады бачыць, кожны можа знайсці для сябе штосьці цікавае.

Ці варта прыкладаць такія намаганні: вышукваць сёння маладомыя народныя гульні, песні і танцы, калі так многа апрацаванай сучаснай этнамузыкі ў інтэрнэце? Фальклорны калектыў «Мілавіца» рэгулярна ўдзельнічае ў шматлікіх культурных мерапрыемствах у Беларусі і за яе межамі, кожны год выязджае на міжнародныя конкурсы і ніколі не застаецца без узнагарод. Унікальнасць «Мілавіцы» была адзначана ў польскай газеце «Kieleckie echo dnia» (ад 12 ліпеня 2014, артыкул аб уручэнні ўзнагарод на 41 Міжнародным харсецкім фестывалі).

Але галоўнае дасягненне «Мілавіцы» і яе нязменнага кіраўніка Марыі Снітко — любоў да спрадвечнай спадчыны беларускага народа, якая перадаецца нашым дзецям. Дыкззяй жа і далей, зорка Венера, вядзі за сабой неаўнадушных людзей.

**Наталля ГЕРМАН**

# Радзіма — Палессе

Некалькі гадоў запар у Беларусі праводзіўся конкурс сацыяльных праектаў «Мая сям'я — мой гонар». Сярод актыўных удзельнікаў — былая вучаніца Стытычаўскай сярэдняй школы Пінскага раёна Віта Сачкоўская, якая вучыцца сёння ў Пінскім педагагічным каледжы.

Віта з сям'і педагогаў. У школе старанна працавала над тэмай «Мой радавод», сабрала звесткі пра сваіх продкаў — аж да прапрапрадзядулі. Генеалагічнае дрэва дапоўнена сямейнымі фотаздымкамі. Некаторым ужо больш як сто гадоў!

У даследаванні Віта распавяла пра фамільны герб Сачкоўскіх «Корчак» і прызналася: «Я родам з Палесся. Люблю свой край, блакіт нябёс і мясцовых азёр, летнюю прахалоду ракі Прыпяць, якая цячэ каля маёй вёскі. З маленства я ўсім сэрцам прыкіпела да гэтых мясцін, да роднага дома, да любых бацькоў, сяброў і суседзяў, да маіх продкаў і народных традыцый. Я вельмі люблю Беларусь, сваё Палессе і ганаруся тым, што я — паляшучка.

Часам я думаю: адкуль яна ўзялася, ад каго перадалася мне мая любоў да Радзімы? І ў сваім роздуме прыходжу да высновы, што не апошнюю ролю адыгралі мая сям'я, бацькі, бабуля і дзядуля. Я ганаруся сваёй сям'ёй». Вось якое таленавітае, шчырае і ўзнёслае пакаленне мацуе крылы на Палессі!

**Аляксандр ХАРОШКА**

# Пад апекай Сафіі Слуцкай

У Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў Беларусі адбыўся вялікі гала-канцэрт з удзелам вядомых дзеячаў культуры, ансамбляў духоўнай музыкі, камерных і народных хароў, аркестраў народных інструментаў. Мерапрыемства гэта з'явілася своеасаблівым падвядзеннем вынікаў Дзён праваслаўнай культуры, арганізаваных прыходам Храма праведнай Сафіі Слуцкай у г. Мінску і Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. З асаблівай цеплынёй шматлікія слухачы віталі салістку Нацыянальнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Тацццяну Гаўрылаву, шоу-балет «Феерыя», камерны хор «Класіка», народных артыстаў Беларусі Ядвігу Паплаўскую і Аляксандра Ціхановіча, артыста тэатра і кіно Яўгена Піменава, творцаў Міхася Пазнякова, Таццяну Дашкевіч, Алену Міхаленка, Лізавету Палеес, Наталію Касцючэнка. На працягу месяца ў шматлікіх установах горада прайшлі канцэрты духоўнай музыкі, паэзіі і песні, якія наведалі тысячы слухачоў.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Беларусы ў Петрапаўлаўцы

Такую назву мае новая кніга вядомага гісторыка і даследчыка мінуўшчыны, кандыдата гістарычных навук і члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Эдуарда Карніловіча. Дарэчы, пяру нястомнага збіральніка імёнаў айчыннай гісторыі належаць навукова-пазнавальныя кнігі «Людзі рэвалюцыйнага подзвігу», «Імёны з небыцця», «Генерал славянскай расы», «Святаполк-Мірскія», «Беларусь: сузор'е палітычных імён» ды іншыя. Новую кнігу пісьменніка склалі цікавыя нарысы пра адметных беларусаў, якіх лёс выпрабаваў Петрапаўлаўскай крэпасцю — расійскай палітычнай турмой, у казематах якой пабывалі шматлікія знакамітыя вязнірэвалюцыянеры. Аўтар знаёміць чытачоў з лёсам дваццаці трох такіх ураджэнцаў Беларусі, апавядаючы, калі і за што трапілі ў Петрапаўлаўку, як склалася іх далейшая жыццё.

Пісьменнік ахоплівае значны адрэзак часу: з 1794 па 1917 год. Героі гістарычных нарысаў — студэнты, матросы, настаўнікі, публіцысты, пісьменнікі, вучоныя… Мужчыны і жанчыны. Сярод іх — кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Польшчы Тадэвуш Касцюшка, вынаходнік падводнай лодкі Казімір Чарноўскі, паэт і філосаф Мсціслаў Прахаў, перакладчык «Капітала» Карла Маркса Леў Зак, доктар гістарычных навук Панцеляймон Лепяшынскі, міністр Часовага ўрада Расіі Павел Малянтовіч, паплечнік Ф. М. Дастаеўскага Іван Ястржэмбскі ды іншыя. Маладыя, рамантычныя і самаахвярныя, яны ведалі, што іх чакае, аднак не спыняліся. Многія былі пакараны катаргай, цяжкімі захворваннямі і заўчаснай смерцю.

Аўтар не закончыў даследаванне. Пакуль ім адшуканы 53 асобы беларусаў, якія прайшлі праз суровыя казематы і жорсткія допыты ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Ёсць патрэба ў новых росшуках, працы ў архівах, а гэта вымагае немалых фінансавых сродкаў. Але і зробленае Э. Карніловічам выклікае павагу і ўдзячнасць.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# Музейшчык з вялікай літары

Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей — цэлы комплекс па захаванні гістарычнай памяці ў рэгіёне. А яго дырэктара — Аляксандра Прановіча — добра ведаюць як таленавітага і руплівага музейшчыка не толькі на Міншчыне, а, як мне падаецца, і па ўсёй Беларусі.

Настаўнік гісторыі па адукацыі, ён шмат гадоў аддаў партыйнай рабоце. Але так склалася, што вярнуўся ў звычную атмасферу. І час паказаў: прыняў правільнае рашэнне.

Што значыць таленавіты музейшчык? Найперш гэта чалавек, які ўважліва збірае ўсе памяткі пра свой родны край па тэме даверанага яму музейнага кірунку. Такі не пройдзе ўзбоч ніводнага вартага ўвагі экспаната. Умее цікава распавесці пра знойдзенае, пра тое, як унікальныя матэрыялы кладуцца ў справу выхавання грамадства. Такі і Аляксандр Аляксандравіч Прановіч.



Фота Наталлі Асмола

Ведаючы яго шмат гадоў, азіраюся назад, каб вызначыць этапы, якія цяпер ужо ў гісторыі пухавіцкага краязнаўства, пухавіцкай музейнай справы варта звязаць менавіта з Прановічам. Што здзейснена за добрыя два дзесяцігоддзі? Па-першае, установа пераведзена з Дукоры ў Блонь. Несумненна, станоўчае рашэнне. Музей знайшоў сябе, стаў бліжэй да райцэнтра — яго пачалі наведваць. Экспазіцыя прыцягвае ўвагу школьнікаў, студэнтаў. У Блоні праводзіліся чытанні, краязнаўчыя канферэнцыі.

Па-другое, у Мар'інагорскім раённым цэнтры культуры адкрылася выставачная зала. Там знайшлося месца пакоям у гонар Якуба Коласа, Алеся Бачылы. Шмат месца адведзена мастацкім зборам музея. Пухавічане захоўваюць у сваёй калекцыі работы Г. Бржазоўскага, С. Лі, А. Бараноўскага, А. Марачкіна, А. Пашкевіча, М. Барташэвіча, Л. Гоманава, А. Фінскага і іншых творцаў. Часта тут праводзяцца выстаўкі. Аляксандр Аляксандравіч уважлівы да творчасці маладых мастакоў. Для ўсіх дзверы гасцінна адчынены. Па-трэцяе, менавіта дзякуючы Прановічу даведзена да ладу гісторыка-дакументальная хроніка Пухавіцкага раёна «Памяць». Таму ўсім, хто хацеў бы зазірнуць у мінуўшчыну тутэйшай старонкі, не абысціся без гэтага выдання.

Калі я запытаўся ў дырэктара, што значыць для яго менавіта Пухавіцкі музей, чым, на яго погляд, ён адрозніваецца ад іншых устаноў такога кшталту, Аляксандр Аляксандравіч заўважыў:

— Мы маем філіялы ў СШ № 3 г. Мар'іна Горка, Блужскай СШ, Гарэльцы. У Мар'інай Горцы філіял вырас на базе музеяў, якімі некалі апекаваўся заслужаны настаўнік Беларусі Віктар Рыгоравіч Арлоў. У Блужы музей — як даніна памяці воіну-афганцу, Герою Савецкага Саюза Мікалаю Чэпіку. Гарэлец — захавальнік партызанскай памяці. Там у свой час над стварэннем школьнага музея «Партызанская слава» шмат парупіўся Сяргей Іванавіч Сіпач. Такім чынам, у раёне існуе своеасаблівая музейная геаграфія…

Сапраўды, такая геаграфія — аснова для развіцця, пашырэння экскурсійнай работы. Пухавіччына — раён вялікі. Не заўсёды і не з кожнай школы можна прывезці дзяцей на экскурсію ў раённы цэнтр ці ў Блонь. Музеі ў Блужы, Гарэльцы і 3-й мар'інагорскай школе не патрабуюць вялікіх сродкаў на ўтрыманне. Супрацоўнікі, якія імі апякуюцца, працуюць на палову стаўкі. Іншая справа, што для існавання і развіцця музеяў патрэбна пэўная фінансавая падтрымка. У многім жыццяздольнасць і філіялаў, і музея залежыць ад ініцыятыў самога Аляксандра Прановіча, ад яго здольнасці прыцягнуць увагу і работнікаў адукацыі, і шырокай грамадскасці рэгіёна.

Асобная старонка ў пераліку добрых спраў пухавіцкага музейшчыка — захаванне літаратурнай памяці краю. І ў Блоні, і ў Мар'інай Горцы істотная частка экспазіцыі звязана з пісьменніцкімі лёсамі. Сярод іх — Якуб Колас, Пятро Глебка, Усевалад Саблін, Максім Горкі, Яўген Чырыкаў, Ільф і Пятроў, Кандрат Крапіва.

На Пухавіччыне нарадзіліся дзясяткі паэтаў, празаікаў: Аляксандр Ельскі, Макар Паслядовіч, Аркадзь Моркаўка, Уладзімір Хадыка, Пятро Рунец, Анатоль Вольны, Алесь Бачыла, Таіса Бондар, Валянцін Мыслівец… Прановічам шмат робіцца для мемарыялізацыі мясцін, звязаных з гэтымі выбітнымі асобамі. Аляксандр Аляксандравіч даўно мог бы зрабіць і выдаць кнігу па пухавіцкай гісторыі. Усе напрацоўкі ёсць. Будзем спадзявацца, што і гэта яшчэ здзейсніцца.

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

# Ураджайны фэст

Сёлетнія «Славянскія літаратурныя дажынкі» былі насычаны шматлікімі прэзентацыямі, навінкамі і адкрыццямі.

Літаратары трох братніх краін традыцыйна сабраліся на гомельскай зямлі, каб прадставіць чытачам творчую справаздачу, засяродзіць увагу грамадскасці на самых актуальных праблемах сучаснасці, а таксама падзяліцца досведам з маладзейшымі калегамі па пяры.

Новыя кнігі ў Беларусь прывезлі расійскія пісьменнікі на чале з сакратаром Саюза пісьменнікаў Расіі Васілём Дварцовым, а таксама ўкраінскія — з Глухава, Сум і Луганска.

«Славянскія літаратурныя дажынкі» ўпершыню атрымалі статус міжнароднага фестывалю-свята. Так, сябры Гомельскага абласнога аддзялення СПБ перастварылі па-беларуску вершы кубанскіх майстроў слова. Гэтыя пераклады ўвайшлі ў зборнік «Я всеми силами храню…». Прэзентавалася тут і выданне «Памежжа», дзе прадстаўлены творы літарататараў Курска і Гомеля.

Акрамя таго, дзякуючы намаганням таганрогскага паэта Леаніда Севера, юнацтва якога, дарэчы, прайшло ў Гомелі, напярэдадні фестывалю былі падпісаны дагаворы аб супрацоўніцтве паміж Няклінаўскім раёнам Растоўскай вобласці і Гомельскім раёнам. Абноўлены і штогадовы альманах «Літаратурная Гомельшчына».

Цэнтральнай пляцоўкай фестывалю стала абласная бібліятэка імя У. І. Леніна.

Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч у прывітальным слове распавёў пра зробленае творчай арганізацыяй Гомельшчыны «ад дажынак да дажынак»: 30 выдадзеных кніг, звыш тысячы сустрэч з чытачамі.

Праасвяшчэнны Стэфан, епіскап Гомельскі і Жлобінскі, падчас адкрыцця фестывалю-свята заклікаў літаратараў-падзвіжнікаў несці славянскаму народу словы дабрыні, любові і ўзаемапавагі.

Пераможцы другога абласнога літаратурнага конкурсу на лепшы твор праваслаўнай тэматыкі абвешчаны па ініцыятыве Гомельскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы і абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Атрымалі ўзнагароды: у намінацыі «Проза» — Зоя Пархамчук (Гарына) за апавяданне «Шлях да Бога», у намінацыі «Паэзія» першае месца падзялілі будаўнік Валерый Вятошкін і настаўніца Ала Навумава, а паэт Яўген Калашнікаў атрымаў дыплом другой ступені за перамогу ў намінацыі «Дзіцячая літаратура». У намінацыі «Публіцыстыка» з нарысамі «Цуды побач» перамагла Ніна Шклярава, якая ўдзельнічала ў трох намінацыях конкурсу. Да юбілею паэтэсы і празаіка Ганны Атрошчанка прымеркаванны выхад яе зборніка лірыкі «Мелодыя жыцця».

Падчас фестывалю былі падведзены і вынікі абласных літаратурных конкурсаў: паэтычнага — да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — і кароткай прозы (імя Івана Сяркова). Творы пераможцаў будуць апублікаваны ў абласным альманаху «Літаратурная Гомельшчына». Перакладчыца і празаік Вольга Раўчанка стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор года-2013» за кнігу перакладаў «ОРОБОРО».

Старшыня праўлення Краснадарскага рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, галоўны рэдактар газеты «Кубанский писатель» Святлана Макарава распавяла пра ўнікальны творчы праект — кнігу перакладаў «Я всеми силами храню…», сумесна падрыхтаваную і выдадзеную пісьменніцкімі арганізацыямі Гомеля і Краснадара. Паэты з Расіі чыталі вершы, прэзентавалі свае кнігі. Ад імя Саюза пісьменнікаў Расіі гомельскім літаратарам былі ўручаны ўзнагароды за ўдзел у праекце «Берагі дружбы».

Даўнія і трывалыя літаратурныя сувязі захоўваюцца паміж Гомелем і Бранскам. Хвалюючымі атрымаліся выступленні паэта, старшыні Бранскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Уладзіміра Сарочкіна, паэтаў Людмілы Ашэка, Віктара Валодзіна і Наталлі Мішынай. А з Сумскай вобласці (Украіна) на свята прыехаў паэт, старшыня Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Анатоль Міроненка, які ўручыў сакратарам гэтага міжнароднага аб'яднання Уладзіміру Гаўрыловічу і Генадзю Говару юбілейныя медалі «200 гадоў Т. Шаўчэнку». Віталі на гомельскай зямлі і галоўнага рэдактара міжнароднага альманаха «Славянские колокола» Алега Саранскіх, а таксама паэта з Луганска, сябра Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Аляксандра Беліка.

Яшчэ адной падзеяй сёлетняга фестывалю стала стварэнне на базе абласной бібліятэкі паэтычнага тэатра пад кіраўніцтвам перакладчыцы і празаіка Вольгі Раўчанка і паэта Алега Ананьева. Адбыўся тут і канцэрт, дзе прагучалі музычныя творы на вершы гомельскіх паэтаў. А ў Доме прафсаюзаў прайшла ўрачыстая вечарына, прысвечаная 25-годдзю творчай дзейнасці старшыні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Гаўрыловіча.

У межах другога дня фестывалю адбыўся «круглы стол», падчас якога славянскія літаратары падзяліліся досведам працы з чытачамі. Было падпісана 5 дамоў пра творчае супрацоўніцтва паміж Гомельскім абласным аддзяленнем СПБ і творчымі арганізацыямі Расіі ды Украіны.

У наступны фестывальны дзень пісьменнікі наведалі Мазыршчыну. У мясцовай сярэдняй школе № 16 творцаў вітаў намеснік старшыні Мазырскага райвыканкама Уладзімір Быстрэнка. Сустрэчы з чытачамі прайшлі ў навучальных установах горада. Літаратары наведалі нафтаперапрацоўчы завод і аграгарадок Рудня Міхалкаўская. А юбілейная выстаўка «Дыялог пяра і пэндзля» мастака Мікалая Дубровы і паэта-мазыраніна Аляксандра Каляды ў Палацы культуры НПЗ, якая на працягу двух гадоў аб'ездзіла ўсе раёны Гомельшчыны, пакінула багата пазітыўных эмоцый ад пейзажаў Палесся, аздобленых вершамі.

«Славянскія літаратурныя дажынкі» — добры стымул для новых праектаў і твораў.

**Мікалай ПАЛЕСКІ**

# Маладыя пра вайну

Літаратурны конкурс для дзяцей і юнацтва, прысвечаны 70-годдзю вызвалення Брэстчыны ад фашысцкай навалы, праведзены Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пераможцаў называць пакуль што рана, але нагода для разваг над старонкамі конкурсных прац ужо ёсць. Вось, прыкладам, допіс Максіма Савіцкага, 16-гадовага навучэнца Пінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя будаўнікоў, які па-мастацку эмацыйна распавёў пра сваю паездку ў Германію. Курт Гозінг, гаспадар дома, дзе гасцяваў юнак, — таксама франтавік, толькі немец. Вялікая Айчынная закінула зусім юнага Курта ў Беларусь. У Кобрынскіх лясах трапіў у палон да партызан… І далей: «Потым мы доўга сядзелі побач і маўчалі. Пра што думаў тады сівы немец, які ваяваў супраць майго народа, я не ведаю. Я думаў пра тое, што вайна пакалечыла лёсы не толькі маіх суайчыннікаў, але і саміх немцаў, прымусіўшы іх жыць з адчуваннем віны і сораму за зверствы фашызму...»

Творчыя работы выпала разглядаць адразу ж пасля ўдзелу ў рэспубліканскай канферэнцыі «Патрыятызм: гісторыя і сучаснасць», што ладзілася ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Адметныя рысы характару беларуса — міласэрнасць, самаахвярнасць — выразна бачныя ў многіх конкурсных творах. Так, Кацярына Калашук, дзевяцікласніца з вёскі Гнеўчыцы Іванаўскага раёна, згадала ў сваёй працы пытанне англійскага карэспандэнта некаму з беларусаў: чаму мы так часта звяртаемся да тэмы вайны? І сама ж адказала: «…Званы, устаноўленыя на помніку ў двары школы ў гонар чацвярых закатаваных дзяцей героя-партызана, б'юць, адбіваючы усялякае жаданне спытаць, навошта нам жыць гэтым мінулым…»

Алена Жур, навучэнка Белаазёрскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа электратэхнікі: «Спыняю погляд на скульптурнай кампазіцыі «Журавы» і чытаю выбітае на помніку: «Живущие перед вами в вечном долгу». Гэты надпіс для мяне».

Вось так разважаюць нашы юныя суайчыннікі. І можна не сумнявацца: на духоўным полі бою мы заўсёды будзем пераможцамі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**



*Ягор Батальёнак «У памяць аршанскай бітвы 1514 г.». 2014 г.*



*Алесь Мара «Канстанцін Астрожскі». 2014 г.*

# Партрэт ВКЛ

Рэспубліканская мастацкая галерэя «Палац мастацтва» прадстаўляе выстаўку секцыі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў «АРТ-ВОРША-РУБОН!», прысвечаную 500-годдзю славутай бітвы пад Воршай.

Як сведчыць гісторыя, Вялікае Княства Літоўскае паказала высокае вайсковае майстэрства. Пасля перамогі пад Воршай у гонар вялікай падзеі Канстанцін Астрожскі будуе шэраг праваслаўных храмаў у Вільні, Менску, Тураве, Смалявічах, на Падляшшы і Валыні. Гэта быў найбагацейшы чалавек, які саступаў толькі Альбрэхту Гаштольду і самому Вялікаму князю. Ёсць меркаванне, што ім была замоўлена славутая карціна «Аршанская бітва».

У беларускім выяўленчым мастацтве тэма слыннай бітвы пачала складвацца ў 1980-я гады XX стагоддзя: жывапіснае палатно напісаў Генрых Ціхановіч. Гэта батальная, шматфігурная кампазіцыя. Таксама ў ліку першых, хто ўвасобіў вобраз Астрожскага ў жывапісе, быў Гаўрыла Вашчанка — выдатны жывапісец, народны мастак Беларусі. Скульптар, народны мастак Беларусі Леў Гумілеўскі высек з граніту конную фігуру К. Астрожскага — Найвышэйшага гетмана ВКЛ. У 1994 годзе Міхась Басалыга стварыў некалькі значных каляровых літаграфій: «Конны партрэт К. Астрожскага», складаную батальную кампазіцыю «Аршанская бітва», партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў. У розныя гады XXI стагоддзя да тэмы бітвы пад Воршай і вобраза Канстанціна Асторжскага звярталіся С. Цімохаў, М. Купава, Ю. Каралевіч, Н. Сакалова-Кубай.

Але арганізатары гэтай выстаўкі найперш мелі на мэце пашырэнне гісторыі ВКЛ і яго культуры ў мастацтве. Хаця і назвалі яе «АРТ-ВОРША-РУБОН!» (старабеларускае слова «рубон» азначае «ўра»), рабілі акцэнт на Залаты век Беларусі — Літвы, якому вялікія паэты ВКЛ прысвяцілі неўміручыя творы: Ян Віслiцкі — «Прускую вайну» і Оду пра бітву пад Воршай, Мікола Гусоўскі ствараў «Песню пра зубра». Францыск Скарына перакладаў Біблію на беларускую мову. Альбрэхт Гаштольд са Скарынаю рыхтавалі I Статут ВКЛ і інш.

Адметнасць выстаўкі — удзел маладых мастакоў, якія прыкметна ўпрыгожылі экспазіцыю яркімі творамі.

**Ганна ШЫМУК**

# Майстар і акварэлі

**Персанальная выстаўка віцебскага мастака, сябра БСМ Уладзіміра Напрэенкі, прымеркаваная да яго 70-гадовага юбілею, адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў, якая месціцца ў сталічным Палацы мастацтва.**

Родам Уладзімір Пятровіч з вёскі Антонаўка Касцюковіцкага раёна, што на Магілёўшчыне. Яшчэ школьнікам трапіў у творчую майстэрню вядучага мастака Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Марка Волахава. Асновы акадэмічнага малюнка і жывапісу вывучаў пад кіраўніцтвам Паўла Масленікава.

Першая персанальная выстаўка У. Напрэенкі, тады першакурсніка Віцебскага педагагічнага інстытута, адбылася ў 1962 г. з ініцыятывы яго выкладчыка, мастака-акварэліста Івана Сталярова. Пасля службы ў войску малады творца працягвае профільную адукацыю ў майстэрні віцебскага мастака Фелікса Гумена. Уражвае колеравая гама работ гэтага перыяду («Нацюрморт з рыбай», 1971; «Стары горад у ночы», 1973; «Аўтапартрэт з дачкой Ірынай», 1977; «Нацюрморт на чырвонай тканіне», 1979).

У жыцці Уладзіміра Напрэенкі настае час плённай творчай і выставачнай дзейнасці, пошуку ўласнага стылю і тэхнічных прыёмаў. Мастак шмат вандруе. У яго творах з'яўляюцца прыбалтыйскія і паўночныя краявіды. У 1976 г. з-пад пэндзля майстра выходзіць серыя работ «БАМ будуецца». І калі ў палотнах такога кшталту можна заўважыць пэўную манументальнасць і строгасць, то пейзажны



*Фота Наталлі Купрэвіч*

жывапіс У. Напрэенкі прасякнуты незвычайнай цеплынёй і душэўнасцю.

Блізкая творцу і рэлігійная тэматыка (трыпціх «Праабражэнне», 1991; «Адраджэнне храма», 1996; «Барацьба святла і цемры», 2006 і г. д.). Ёсць сярод яго твораў партрэты і аўтапартрэты. Марку Шагалу прысвечана серыя «Вяртанне майстра».

Падчас вернісажу ў выставачнай зале адбылася прэзентацыя альбома «Уладзімір Напрэенка» («Чатыры чвэрці», 2014). Павіншаваць Уладзіміра Пятровіча прыйшлі старшыня БСМ Рыгор Сітніца, старшыня секцыі графікі БСМ Уладзімір Савіч, мастак Генадзь Шутаў і дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух.

**Яна ЯВІЧ**

# Больш чым графіка



*Алег Назарэнка «Плаціна». 2010 г.*

**У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў адкрылася выстаўка сяброў секцыі графікі БСМ «Tour de Беларусь. Пралог».**

Тут можна ўбачыць інсталяцыі і творы станковай, кніжнай і эксперыментальнай графікі. У экспазіцыі невыпадкова ўваходзяць ровары: за аснову ўзята канцэпцыя міжнароднай велагонкі *Tour de France*. У наступным годзе выстаўка атрымае міжнародны прыцэг.

На вернісаж завіталі члены бюро секцыі графікі БСМ: Уладзімір Вішнеўскі, Вячаслаў Паўлавец, Павел Семчанка, Вера Ягоўдзік, Валерый Славук, а таксама Алесь Сільвановіч (Гродна), Юрый Якавенка (Гродна), Леў Алімаў (Брэст) і старшыня секцыі, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Савіч.

«Tour de Беларусь. Пралог» — сінтэз мастацкасці, вобразнасці і нацыянальнага каларыту.

Старшыня БСМ Рыгор Сітніца зазначыў: прэзентаваная выстаўка — узор не толькі графікі, але і экспазіцыйнага мастацтва ўвогуле. Гэта, па сутнасці, сцвярджэнне высокапрафесійнага ўзроўню майстэрства айчынных мастакоў, які сапраўды ўражвае.

У экспазіцыі прадстаўлены творы Уладзіміра Савіча («На крыжы дарог», «Прынесці раўнавагу ў іх душы»), Сяргея Пісарэнкі («Адлюстраванне», «Празрысты свет»), Вячаслава Паўлаўца («Вытокі Нёмана», «Касцёл у Нясвіжы»), Аксаны Аракчэевай (вокладкі і ілюстрацыі да розных кніжак), Піліпа Басалыгі («Надвячорак», «Сустрэча»), а таксама Алега Кастагрыза ды Міхася Ляўковіча з Віцебска, Юрася Несцерука з Магілёва, Алеся Канавалава з Полацка ды інш.

**Яна ЯВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2285.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 05.11.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4623.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686